PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№37 (1896) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 13 ВЕРАСНЯ 1992 Г. ЦАНА 2000 ЗЛ.



*Родныя краявіды. Над Нараўкай каля Ляўкова.* **Фота Я. Целушэцкага.**

## ЧАС ШАКАЛАЎ

Яшчэ нядаўна пра Еўропу гаварылася як пра кантынент, які мог бы стаць узорам для іншых у способе вырашання нацыянальных ці рэлігійных праблем. Калі ў тэлебачанні паказвалі нейкі кашмар, то былі гэта сцэны з далёкай Кампучыі, Афганістана, Ірака, Нікарагуі, Балівіі ці Уганды. У нас у гэтым часе дыскутавалі пра правы чалавека, нацыянальных і этнічных меншасцяў і са спачуваннем гэтым экзатычным народам ківалі галовамі. Канфлікты найчасцей былі вынікам татальнай барацьбы паміж Савецкім Саюзам і Амерыкай за новыя зоны ўплываў на нашай планеце. Еўропу не ўключалі ў гэтую барацьбу, бо яна была аж надта выразна падзелена і тут знаходзілася 80% усяе тактычнай зброі. Зямля магла б не вытрымаць ваеннага спаборніцтва ў Еўропе ў гэтых палітычных умовах, якія былі яшчэ ў 80-тых гадах.

Дабрабыт на Захадзе і савецкі парадак на Усходзе, найкарацей кажучы, паўстрымоўвалі ўсялякі нацыянальны містыцызм. Барацьба, якую на працягу 80-тых гадоў пачалі народы ўсходняй Еўропы супраць камуністычнага парадку, вялася пад лозунгамі „дэмакратыі і свабоды". Бачылася тады перспектыва дзяржавы без камуністаў, гаспадарчага ідыятызму, бяды і бруду.

І сталася. З камунізмам нават не трэба было надта змагацца, ён сам развалiўся, не вытрымаўшы эканамічнага спаборніцтва з капіталізмам. У параўнанні з гэтым апошнім можа і быў ён больш сацыяльна справядлівы, але за мала прадукцыйны. Роўнасць у бядзе і недэмакратычная сістэма не маглі доўга існаваць побач дабрабыту і палітычнай роўнасці ўсіх грамадзян заходняй Еўропы.

Бяскроўныя рэвалюцыі, якія здзяйсняліся амаль ва ўсіх краінах нашай часткі кантынента, пераўтварылі дзяржавы і грамадствы ў штосьці бліжэй неакрэсленае. Вельмі хутка ўдалося стварыць асноўную канструкцыю дэмакратычнага ладу (выбары і парламенцкае кіраванне), але толькі некаторыя людзі з новай эліты ўлады мелі нейкае ўяўленне што гэта такое дэмакратыя ў канцы XX стагоддзя. Зусім не прыстасаваным да новай сітуацыі аказалася грамадства, якое далей астаецца сацыялістычным. Да ўлады прыйшла апазіцыя, якая раней абяцала дэмакратыю і дабрабыт, калі толькі адыдуць камуністы.

У канцы 1988 г. на сустрэчы з беластоцкімі студэнтамі Яцэк Курань гаварыў: „Апазіцыі ў Польшчы непатрэбна сёння ўлада, бо гэта будзе канец нашай легендзе. Мы не маем ніякага паняцця, як кіраваць дзяржавай. Маем добрую волю, але ніякага вопыту. Кожная рэвалюцыя пачынаецца з прыгожай ідэі, але канчаецца кашмарам. Мы можам праз месяц пераняць уладу, але што далей? Грамадства будзе чакаць зменаў — перад усім новай эліты ўлады, а далей лепшай эканамічнай сітуацыі. Першае зрэалізаваць лёгка. Памяняць міністраў, ваяводаў, войтаў можна ў адзін тыдзень, толькі на іх месца прыдуць такія, што на пачатку іх кіравання не будзе хапаць нават хлеба і тады можа пачацца сапраўдная рэвалюцыя, а ўладу тады возьмуць Рабесперы, Дзяржынскія, Сталіны або падобныя ім садысты".

Магчыма, што рэалістычная ацэнка сітуацыі ў Польшчы вяла да памяркоўнасці ў перабудове палітычных і эканамічных структураў. Сярод тых, якія змагаліся за „еўрапейскія вартасці", аказалася, што большасць з іх узоры гэтыя хоча браць з Еўропы, але трыццатых гадоў, якая тады кіпела ад нацыяналізму. Тых, якія сур'ёзна гаварылі пра еўрапейскія нормы, абзывалі „жыдамі", „касмапалітамі" і іншымі эпітэтамі. Амаль у кожнай еўрапейскай краіне паўставалі арганізацыі, якіх галоўным пунктам праграмы быў супер-

*Працяг на стар. 4*

## РЭВАЛЮЦЫІ НЕ БУДЗЕ

Канец жніўня — гэта, пасярод усяго іншага, таксама час адзначэння ўгодкаў „Салідарнасці". Адзначэнне гэтай гадавіны (сёлета 12-тай) узведзенае ў ранг афіцыйнага рытуалу — са штандарамі, прамовамі, прэзідэнтам, малебнамі ў касцёлах і зборкамі пад помнікамі ахвярам рабочага змагання ў папярэдняй палітычнай сістэме. Аднак жа нельга не заўважыць, што з году ў год сэнс таго салідарніцкага змагання стаецца штораз болей расплывістым і невыразным. Прынамсі — у агульнаграмадскім адчуванні. Czy o taką Polskę nam chodziło?

Трываюць рабочыя страйкі на буйных прадпрыемствах Польшчы — у капальнях на Шлёнску, у фабрыках самаходаў і самалётаў, у гданьскай сточні. Адны страйкуюць, зачыніўшыся ў прадукцыйных цэхах, іншыя стаяць пад плотам і ставяць свае подпісы на спіску, паводле якога дырэкцыя выплачвае па — 100 тысяч злотых за „przestój". Штораз менш салідарнасці ў „Салідарнасці".

Распад таго, што называлася этасам „Салідарнасці", пачаўся ў 1990 годзе, калі пайшло змаганне за прэзідэнцкае крэсла. А потым, з кожным наступным урадам, з кожным палітычным і эканамічным скандалам, у вярхах і следу не засталося ад колішняй згуртаванасці і салідарнасці. А народ, прыгнечаны фінансавымі нястачамі ў кішэні пад канец кожнага месяца, перастаў верыць посткамуністычным кіраўнічым элітам (Komuno wróć?).

Гэта паказвае, што самой наяўнасці дэмакратычных механізмаў у дзяржаве не хапае, каб забяспечыць стабільнасць ейнага развіцця. Патрэбна грамадская правамоцнасць улады — давер народу да тых, якія тую ўладу выконваюць. А апошні гучны скандал — справа тайных агентаў у парламенце — мінімалізаваў гэтую правамоцнасць, так сказаць, да апошняй рысачкі.

Ды ўсё-такі магчымасць нейкай наступнай сацыяльнай ці палітычнай рэвалюцыі ў Польшчы не явіцца верагоднай. Праўду сказаўшы, няма ні грамадскай асновы дзеля яе (рабочы рух „рассыпаўся" на шмат варагуючых між сабою груповак), ні выразных лідэраў-апазіцыянераў. Запушчаны працэс прыватызацыі „размыў" таксама вобраз вінаўніка эканамічнай непасільнасці ў Польшчы — не вельмі вядома, супраць каго выступаць: супраць цэнтральнай улады ці супраць дырэктара („капіталіста") суполкі, якая мае прадпрыемства на ўласнасць? На першым месцы ў цяперашнім сваім пратэсце рабочыя ставяць павышэнне зарплатаў — перабудова эканамічных адносін у сферы прадукцыі іх не цікавіць. Рэвалюцыя не мае свае мэты.

**ЯН МАКСІМЮК**



# МЫ ПРАЧЫТАЛІ, ШТО...

Сярод 182 гмінаў, прызнаных Радай міністраў асабліва пацярпелымі ад беспрацоўя, няма ніводнай гміны з Беластоцкага ваяводства. Гэтая ўрадавая кваліфікацыя абазначае, што занесеныя ў рэестр гміны атрымаюць дзяржаўныя датацыі на развіццё прадпрымальніцтва, для інвестыцый будуць падатковыя льготы, урадам будуць фінансавацца г. зв. публічныя работы, гміны атрымаюць доступ да крэдытаў з краёвых і замежных фондаў.

*(Паводле „Gazety Wyborczej", 28.08.92)*

Беластоцкая зямелька заганарылася — пляваць нам на ўрадавую дапамогу, самі дамо рады тут без Варшавы... Ці, можа, Варшава паказала фігу Польшчы-Б, як і раней бывала?

* * *

Odwilż początku lat osiemdziesiątych oraz późniejsze załamanie się systemu socjalistycznego w Polsce , rozpad Związku Radzieckiego, pozwoliło odrodzić się kulturom wielu narodów. Do nich należą Ukraińcy Podlasia.

*(„Kurier Poranny", 28-29-30.08.92)*

Чаго не бывае? — Нават яцвягі на Палессі ўваскрэслі пасля гэтых каласальных устрасенняў...

* * *

Podobno ponad 70 proc. prostytutek w Pireusie i Atenach to Polki. (...) Władze greckie naciskają na Polskę, by tzw. zasada readmisji, czyli zobowiazania do przyjęcia każdej osoby, która narusza prawo w drugim kraju, obejmowała rownież grupę dawnych emigrantów. (...) Natomiast Polska chce, by readmisja nie działała wstecz, lecz od momentu podpisania porozumienia.

*(„Gazeta Wyborcza", 29-30.08.92)*

Ну бо ці мала мы маем гэткага тавару з краін былога СССР?

* * *

— Колькі медалёў заваявалі беларусы на Алімпіядзе ў Барселоне? — пытае чытач „Чырвонай змены".

— Усяго беларускія спартсмены заваявалі ў Барселоне 27 медалёў, у тым ліку 17 залатых, — адказвае газета.

* * *

Не пашанцавала заваёўніку 6 залатых медалёў у Барселоне, беларускаму гімнасту Віталю Шчэрбу з Менска — пасля вяртання з Алімпіяды яго абакралі. Зладзеі забралі ўсе ўзнагароды — на суму 4 мільёнаў рублёў. Медалі засталіся. І за тое дзякуй.

* * *

Урадам рэспублікі сур'ёзна распрацоўваецца пытанне аб магчымасці зніжэння ўзроставага цэнзу пры ўступленні ў шлюб да 15—16 гадоў.

*З паведамлення БЕЛІНФАРМ (Менск)*

Сур'ёзна?

* * *

Даволі вялікі атрад беларусаў накіраваны ўрадам у Кустанайскую вобласць. (...) Галоўная задача мабільнага атрада — „зарабіць" для Беларусі абяцаныя Казахстанам 2 мільёны тон збожжа. (...) Як заўсёды вялося ў нас — наперадзе камуністы.

*(„Народная газета", 21.08.92)*

Даёш цаліну!

* * *

З аб'явы *(„Kurier Podlaski")*:

„Odstąpię mieszkanie panienkom prawosławnym".

Каб сыноў ажаніць?

* * *

І яшчэ:

„Odstąpię kolejkę".

Сам сабе стой!

## З мінулага тыдня

У 53 гадавіну выбуху II сусветнай вайны прэзідэнт РП **Лех Валэнса** разам з міністрам Нацыянальнай абароны **Янушам Анышкевічам** узлажылі вянок ад народа на Магіле невядомага салдата. У многіх мясцовасцях, на могільніках і пры помніках, адбыліся ўрачыстасці ў гонар гэтай сумнай гадавіны.

**Новы навучальны год** пачаўся агульнапольскай урачыстасцю ў Сухаволі. Удзельнічалі ў ёй міністр нацыянальнай адукацыі **Здабіслаў Флісоўскі**, экс-міністр **Анджэй Стэльмахоўскі**, мітрапаліт беластоцкі арцыбіскуп **Эдвард Кісель** і прадстаўнікі ваяводскіх улад. У часе ўрачыстасці быў адкрыты і пасвячоны новы будынак Агульнаадукацыйнага ліцэя імя кс. Ежы Папялушкі. У Беластоцкім ваяводстве ў гэтым годзе ў падставовых школах будзе вучыцца звыш 80 тысяч дзяцей, а ў сярэдніх — 40 тысяч, у тым ліку 12 тысяч у агульнаадукацыйных ліцэях.

**„Польшча — гэта сёння адзін з галоўных палітычных і гандлёвых партнёраў нашай маладой дзяржавы"** — сказаў пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы **Уладзімір Сянько** новаму менскаму тыднёвіку „Згода". Ужо ёсць і вынікі ад гэтых кантактаў. Нядаўна былі падпісаны дакументы аб стварэнні Беларуска-польскага камерцыйнага банка, а польскі бок згадзіўся зрабіць даступным для Беларусі порт у Гдыні, які, паводле пасла, „можа стацца марскім акном у свет для Рэспублікі Беларусь".

**Былы прэм'ер-міністр** (у гадах 1970-1980) **Пётр Ярашэвіч** і яго жонка **Аліцыя Сольская** былі замардаваны ў сваёй віле ў падваршаўскай мясцовасці Анін. Невядомы яшчэ матывы і акалічнасці гэтага злачынства — паінфармавала паліцыя. Для іх высвятлення Міністэрствам унутраных спраў створана спецыяльная камісія.

**Рабочыя бастуюць далей.** На Трактарным заводзе „Урсус" страйк прыпынены; у шахце „Розбарк" працягвалася забастоўка і была аб'яўлена галадоўка; у Тыхах кіраўніцтва Фабрыкі малалітражных самаходаў парвала перагаворы са страйкавым камітэтам.

**Амаль удвая падаражэў цукар** (у магазіне кілаграм каштуе 12 тыс. зл.). Эканамічны камітэт Рады Міністраў выгрышны перадаць частку дзяржаўных запасаў цукру на патрэбы ўнутранага рынку. Мяркуецца, што рознічная цана цукру з запасаў не будзе большая за 8—8,5 тысячы злотых за кілаграм.



# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### ЛІБЕРАЛІЗАЦЫЯ — ВЫПРАБАВАННЕ ЗАПАСУ ТРЫВАЛАСЦІ

Вынікі першага этапу сацыялагічнага даследавання эканамічнай, сацыяльна-палітычнай і псіхалагічнай сітуацыі ў рэспубліцы, праведзенага Інстытутам сацыялогіі АН Рэспублікі Беларусь сведчаць, што ўсе слаі насельніцтва перажываюць стан трывожнага чакання. 76,1 працэнта апытаных выказалі самыя негатыўныя адносіны да працэсу лібералізацыі цэн, лічачы яго павышэннем. Рынак у яго сённяшнім выглядзе адмоўна ацанілі 86,5 працэнта. Занепакоенасць эканамічным становішчам, якое ўсё пагаршаецца, выказалі 68,2 працэнта, зніжэннем дабрабыту - 68,2 працэнта. Аднак сённяшняе становішча спажывецкага рынку выклікае трывогу толькі 36,4 працэнта апытаных. Малаверагодна, што гэтага запасу трываласці для ўтрымання рыначных пераўтварэнняў хопіць для таго, каб вытрымаць, трэба меркаваць, не апошні вераснёўскі скачок цэн на харчавыя тавары.

### ВЫ СЛУЖЫЦЕ, А МЫ ПАЧАКАЕМ

На дваццаць дзён быў адтэрмінаваны веснавы прызыў у беларускае войска, але 1160 чалавек так і не з'явіліся на прызыўныя пункты. Магчыма, многія з прызыўнікоў разлічваюць на тое, што на бліжэйшай сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі будзе прыняты закон, які прадугледжвае скарачэнне тэрміну службы да 18 месяцаў, і выкарыстоўваюць існуючы прававы вакуум /рэспубліканскі закон «Аб усеагульным воінскім абавязку» пакуль не прыняты, а закон былога СССР практычна не дзейнічае/ у сваіх інтарэсах.

### КОЖНЫ ЧАЦВЁРТЫ СТАНЕ БЕЛАРУСАМ

З гэтага навучальнага года колькасць вучняў, што навучаюцца на беларускай мове, узрасце прыкладна на 25 працэнтаў. Адзначым, што ў мінулым - з 5.067 школу Беларусі на нацыянальнай мове працавалі 3.278 школ, на рускай - 911, з дзвюма мовамі - 678 школ.

### РАДЫКАЛЫ Ў АВАНГАРДЗЕ

Устаноўчая канферэнцыя Радыкальнага крыла Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі, якая адбылася днямі ў Менску, павінна, па меркаванню яе арганізатараў, пакласці канец недаразуменням у кіраўніцтве і стаць пачаткам працы па стварэнню авангарда БНФ, яго крайняй правай сілы. Абрана Рада радыкальнага крыла, якое, як сцвярджаецца ў заяве, «згуртуе найбольш дзелавых і адукаваных людзей, здольных зрабіць эфектыўнай дзейнасць НДПБ». Старшынёй стаў сустаршыня НДПБ Анатоль Астапенка.

### МЫТНЯ ПАД УЛАСНЫМ СЦЯГАМ

Камісія па забеспячэнню адзінай палітыкі выкарыстання дзяржаўных сімвалаў пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета Беларусі адобрыла ўзор сцяга мытных органаў рэспублікі. Гэта Дзяржаўны сцяг рэспублікі, які мае ў правым ніжнім вугле эмблему мытных органаў памерам у адну трэць шырыні сцяга.

Разгледжаны таксама праект выязнога знака з дзяржаўнымі сімваламі для ўстаноўкі на мытных пераходах.

### УСЕЙ ГРАМАДОЙ - ПАГАРЭЛЬЦАМ

Управа Беларускага народнага фронту «Адраджэнне» выступіла з прапановай сабраць для пагарэльцаў двух вёсак, што згарэлі падчас жнівеньскіх пажараў, прыстойнае адзенне і абутак. Цяпер кожны спачуваючы мае магчымасць дапамагчы гаротнікам не словам, а справай - збор рэчаў арганізаваны на плошчы Свабоды ў Менску, ля гарадскога страйкама.

### ЛАПІК НА ЛАПІКУ

70 мільярдаў рублёў, выдзеленых у гэтым годзе Саветам Міністраў і Нацыянальным банкам Беларусі для крэдытавання аграпрамысловага комплексу, відавочна, не хапае для таго, каб папраўіць гаротнае становішча беларускай вёскі. Сітуацыю крыху палепшыла рашэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў аб выдзяленні крэдытаў прадпрыемствам і арганізацыям для папаўнення абаротных сродкаў. Але праблема недахопаў фінансаў застаецца.

### «БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРА Ў СВЕЦЕ»

На 1995 год намечаны выпуск кнігі пад працоўнай назвай «Беларуская культура ў свеце», якая рыхтуецца нацыянальна-асветніцкім цэнтрам імя Францыска Скарыны. Выданне будзе прызначана не толькі Беларусі, але і нашым суайчыннікам, якія жывуць ў Амерыцы, Аўстрыі, Скандынавіі і іншых краінах.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**



## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Сцеражыцеся цётак рэвалюцыі.
- Апошні званок для пушчы.
- Беларусу непатрэбна свабода?
- Паміж дэмакратыяй і нацыяналізмам.
- Справядлівы сярод народаў свету.

## СПЕКТАКЛЬ ПА-БЕЛАРУСКУ!

На днях са спектаклем „Канёк-гарбунок" прыехаў на Беласточчыну Лялечны тэатр з Гродна.

Казку, а ставіцца яна на беларускай мове, будзе можна паглядзець толькі:

— у Беластоку — 13 верасня, а гадз. 16 у Беластоцкім лялечным тэатры (вул. Каліноўскага 1),

— і ў Бельску-Падляшскім — 14 верасня, а гадз. 11 і 13 у Бельскім доме культуры.

За дадатковымі інфармацыямі можна звяртацца ў Беластоцкі лялечны тэатр па тэлефоне 25031 дад. 244.



# ПАРАФІЯЛЬНЫ ФЕСТЫВАЛЬ У МЕЛЬНІКУ

У днях 29-30 жніўня гэтага года праводзіўся ў Мельніку над Бугам украінскі фестываль „Мельнік-92". Быў гэта другі выпуск імпрэзы. Арганізавалі яе падляшскія ўкраінцы /7 чалавек, як падлічыў С. Яновіч/.

Мельнік сваімі забудаваннямі цягнецца паўз Буг. На самай усходняй яго ўскраіне, збоч будынкаў, над самай ракою стаіць невялічкая сцэна. Ейныя памеры ў пару разоў меншыя за сцэну, на якой летась праходзіла наша «Басовішча», але мае затое салідны фундамент. Спінаю сцэна да ракі, а перад ёю пляцоўка акружаная дрэвамі. Лесу ж не столькі, што ў Гарадку, але характва прыдае Буг. Тут менавіта праходзіў фестываль.

Праграма фестывалю прадугледжвала канцэрты маладзёжных і фальклорных калектываў, а таксама ВЯЛІКІ КАНЦЭРТ ФЕСТЫВАЛЮ ў суботу /29 жніўня/ вечарам. Арганізатары на больш дэталёвую распіску праграмы не наважыліся. Хіба з прычыны неспадзяванак, якія часта здараюцца на мяжы з


Жаночы калектыў з Мельніка.


Ат, чалавек дзвесце было.

усходнімі суседзямі. Ці мала гуртоў стаяла на мытнях у час «Басовішча»? Некаторыя прарываліся, але без інструментаў. Падобна было з імпрэзай у Мельніку - праз мытню не пераехаў аўтобус з феерверкамі, а мелі яны быць адным з галоўных пунктаў фестывалю.

Выступалі ў Мельніку фальклорныя калектывы з Беласточчыны. Напрыклад, прыехаў у Мельнік жаночы калектыў з Чаромхі. «Тыя беларусы з БГКТ, - казалі жанчыны, - хіба на нас абразіліся, бо не запрашаюць на свае фэсты. /У нядзелю 30 жніўня паралельна праходзіў беларускі фэст у Сямяцічах/. То мы ўзялі і прыехалі сюды».

На фестывалі ў Мельніку пераважала фальклорная культура /прынамсі ў нядзелю/. Уначы, з суботы на нядзелю, як частка фестывалю, адбылася забава.

І яшчэ слова пра арганізатараў. Падляшскі ўкраінец - гэта такі ўкраінец, які ў пачатку васмідзесятых гадоў быў актыўным удзельнікам Беларускага аб'яднання студэнтаў, а часамі і карэспандэнтам «Нівы».

**А. МАКСІМЮК**
**Фота аўтара**



## ШТО ЧУВАЦЬ У КЛЯШЧЭЛЯХ

Ад года інфармуе пра гэта мясцовая газета-месячнік «Co Słychać w Gminie». Выдае яе Гмінны асяродак культуры. Рэдактарам выдання з'яўляецца Мар'я Клімовіч. Газетка - каля 20 старонак - выходзіць тыражом крыху большым за 100 экзэмпляраў, а друкуецца на ксераксе ў Гміннай управе.

Бюлетэнь «Co słychać w Gminie» можа быць цікавы не толькі для жыхароў Кляшчэль і наваколля, хаця, зразумела, - як гмінная газета - накіраваны ён у першую чаргу да іх. Многа тут інфармацыі, і то сапраўды рознай: пра школы і крамы, пра ахову здароўя і культурныя імпрэзы, пра пажарную ахову і сельскую гаспадарку. Ёсць месца і на гумар, і на лісты ад чытачоў, і на рэкламу. У кожным нумары некалькі цікавых размоў-інтэрв'ю.

У 12 нумары /жнівеньскім/ можам даведацца, напрыклад, пра канец кляшчэлеўскага ПГРа. 1 ліпеня яго маёмасць і абавязацельствы пераняло Агенцтва сельскагаспадарчай уласнасці Скарбу дзяржавы. Да канца года ў ПГРы павінна завяршыцца прыватызацыя. Якраз ПГР у Кляшчэлях - першы ў нашым ваяводстве, які не ліквідуецца, а прыватызуецца. Яго маёмасць - зямля, будынкі і машыны - пойдзе на продаж або ў арэнду. Першынство на куплю кватэр будуць мець іх сённяшнія жыхары, а за кожны год працы ў ПГРы прыслугоўвае ім скідка на 3% вартасці кватэры. Ліквідатар Гэнрык Жмуйдзін думае, што ўсім працаўнікам былога ПГРа хопіць працы і ў будучыні. Частка з іх стане саўладальнікамі суполак, якія пяроймуць маёмасць ПГРа, іншыя - будуць у гэтых суполках працаваць.

Якім вынікам закончыцца працэс прыватызацыі ПГРа ў Кляшчэлях, будзе відаць у канцы года. Пабачым таксама, як будзе развівацца гмінная газета. Сённяшняя аператыўнасць рэдактараў ды іхняя заангажаванасць у працу здаюцца быць добрай зарукай на будучыню. Можа наладзіцца супрацоўніцтва між нашымі газетамі?

**ак**

## ГУЛЬНІ З АГНЁМ
### або лета ў пажарнікаў

Не было на Беласточчыне гэтага лета, на шчасце, такіх пажараў, як той каля Кузні-Рацібарскай у Катавіцкім ваяводстве - расказваюць мне ды засыпваюць рознымі лічбамі, статыстыкамі старшы капітан Уладзімір Лаўнічук, капітан Славамір Раманюк і малодшы капітан Кшыштаф Красніцкі з Ваяводскай камендатуры пажарнай стражы. Найбольшы быў 2 ліпеня, у лесе каля Елянкі - у «Ніве» пра яго ўжо пісалася.

Аднак агонь і нас не шкадаваў, успыхаў штодзень, і то па некалькі разоў. За два месяцы - ліпень і жнівень / дадзеныя да 28.08/ - Ваяводская камендатура пажарнай стражы занатавала 408 пажараў, з чаго 9 акрэсліла як вялікія. У аналагічны час мінулага года на Беласточчыне пажараў было 207, у тым адзін вялікі. Страты ў двух вакацыйных месяцах гэтага года ў нашым ваяводстве - больш за 20 мільярдаў злотых.

Найчасцей гарыць вёска і лес. Бывае так, што ў чалавека ідзе з дымам здабытак цэлага жыцця. Вось некалькі пажараў у індывідуальных гаспадарках, для прыкладу:

- 1 жніўня ў вёсцы Машчона каля Мельніка згарэлі 2 клуні, 2 аборы і гаспадарчы будынак з трактарам «Урсус»; прычына - невядомая, старты - 1 мільярд 300 мільёнаў злотых;
- 19 жніўня ў Сукавічах, Шудзялаўская гміна, згарэлі 4 клуні, разам з сабраным плёнам; страты ацэньваюцца на паўтары мільярда, прычына таксама невядомая;
- 23 жніўня ў вёсцы Бацікі ад электрычнасці згарэлі гаспадарчы будынак, клуня разам са збожжам, сельскагаспадарчыя машыны, у гэтым выпадку страты каля 400 мільёнаў.

Многа было пажараў у ваколіцах Лап. Там якраз найгоршая матэрыяльная база пажарнай стражы - казалі мае субяседнікі. Але можа неўзабаве змяніцца, бо ствараецца там новая пажарная часць.

1 студзеня гэтага года выйшаў закон аб рэформе пажарнай аховы, але паўгода ішлі падрыхтоўкі да ўвядзення яго ў жыццё. Дзейнічаць пачаў ён 1 ліпеня. Уся рэформа раскладзеная на 3 гады, на працягу якіх мае стварыцца адзіная Краёвая ратаўніча-тушыльная сістэма /тушэнне пажараў, ліквідацыя вынікаў стыхійных няшчасцяў і таму падобнае/. Галоўнай часткай, ядром, можна сказаць, гэтай сістэмы будзе Дзяржаўная пажарная страж, створана 1 ліпеня.

Раней адзінкі пажарнай аховы падпарадкоўваліся тэрытарыяльным органам улады. Цяперашняя рэформа вядзе да цэнтральнага падпарадкавання ў гэтай галіне, да стварэння аднародных, больш функцыянальных структур. Сёння на чале пажарнай аховы стаіць, падпарадкаваны міністру ўнутраных спраў, галоўны камендант. Яму падпарадкоўваюцца ваяводскія камендатуры, ім раённыя, а падставовымі звеннямі з'яўляюцца ратаўніча-тушыльныя адзінкі. У Беластоцкім ваяводстве такіх адзінак 10, арганізаваных у 5 раённых камендатурах.

У структурах пажарнай аховы ёсць таксама адзінкі цэнтральнага падпарадкавання, якімі непасрэдна кіруе галоўны камендант. На Беласточчыне такой часцю з'яўляецца, утвораная 4 жніўня бягучага года, Унтэрафіцэрская пажарная школа ў Супраслі.

Не ўсюды да пажару паспее прафесійная пажарная страж. Ёсць гміны, напрыклад Міхалова, Гарадок, Нарва, дзе большасць пажараў тушаць добраахвотнікі. Аднак людзей, гатовых уступаць у рады добраахвотнай пажарнай стражы, усё меншае. Галоўная прычына напэўна ў тым, што вёска ў нас апусцела, але ёсць і іншыя складанасці. Дацэньваючы важкасць грамадскай працы пажарнікаў-добраахвотнікаў урэшце ўлады прызналі грашовыя кампенсацыі за іхні труд, за ахвяраваны для тушэння агню час, а нярэдка і здароўе.

Паводле сённяшніх законаў, кошт утрымання і забеспячэння баявой здольнасці добраахвотнай пажарнай стражы бярэ на сябе гміна. Ад войта і гміннай управы залежыць, у якім становішчы апынецца на іхняй тэрыторыі пажарная ахова. Але толькі, калі ідзе пра матэрыяльны бок справы - тэрытарыяльныя органы самакіравання не маюць права ўмешвацца ва ўнутраныя справы добраахвотнай пажарнай стражы, нельга ім распусціць ніводную пажарную часць. Гэта самастойная арганізацыя, са сваім статутам і кіраўніцтвам - ім толькі і падпарадкоўваецца. Тут можна правесці паралель са школьніцтвам, якое таксама падпарадкоўваецца гмінам, але ж праграмы навучання ўзнікаюць не там, толькі ў Міністэрстве нацыянальнай адукацыі.

Пажарнікі-прафесіяналісты маюць абавязак аснашчаць сваіх калег добраахвотнікаў апаратурай, якая яшчэ прыгодная, але ўжо ім непатрэбная. «Але што ты зробіш, калі ў нас нічога непатрэбнага няма, - смяецца старшы капітан Лаўнічук,- часамі даводзіцца камбінаваць». Дзякуючы такой камбінацыі баявыя машыны, умяшчальнасць якіх па 10 тысяч літраў, атрымалі гміны Нараўка і Крыпна. Аказаліся імі колішнія... міліцыйныя вадзяныя арматкі для разгону дэманстрантаў. Іх толькі перамалявалі, нават перарабляць многа не трэба было. Што значыць вынаходлівасць!

Калі мы ўрэшце пачнем вучыцца на няшчасцях, дык можа ў будучыні ўдасца прадухіліць падобныя. Можа здабудзем, як грамадства, дасведчанне і ў выніку сёлетніх пажараў - разлічваюць тыя, якім даводзіцца змагацца з агнём. Яны мараць пра час, калі ўсе зразумеюць, што на супрацьпажарным забеспячэнні ашчаджаць не нельга.

У гэтым годзе да канца жніўня згарэла маёмасць вартая амаль 40 мільярдаў злотых. Каб не пажарнікі, згарэлі б яшчэ наступныя 350 мільярдаў. Пра чалавечыя жыцці, у супастаўленні з грашамі, нават упамінаць не выпадае.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**



# БАЛАХОВІЧ

**У гэтым нумары пачынаем друкаваць біяграфію Станіслава Булак-Балаховіча, беларускага палітыка і афіцэра, які ўпісаўся ў нашу навейшую гісторыю як найбольш супярэчлівая асоба. Для адных быў ён нацыянальным героем, сімвалам беларускай драмы XX стагоддзя, для другіх — здраднікам рэнегатам і фашыстам.**

**Аўтар гэтай біяграфіі, Алег Латышонак, з'яўляецца найбольш кампетэнтным даследчыкам, які імкнецца высніць усе абумоўленасці беларускай палітыкі ў час I сусветнай вайны і пасля яе заканчэння. І таму Балаховіч, як найбольш выдатная асоба тае эпохі, знайшоўся ў цэнтры навуковых доследаў А. Латышонка.**

**Ніжэй публікаваны артыкул з'яўляецца фрагментам шырэйшай працы, якую рыхтуе аўтар.**

**Рэд.**

* * *

**МАЛАДОСЦЬ**

Станіслаў Булак-Балаховіч пабачыў свет 10 лютага (па ст.ст.) 1883 г. у аграмадным пакоі псеўдагатычнай вежы палаца ў Мейштах, што ў тадышняй Відзскай воласці Навааляксандраўскага павета.

Хаця і нарадзіўся ў палацы і меў падвойнае „шляхецкае" прозвішча, сваю радаслоўную вёў з сялян Ковенскай губерні. Булак-Балаховічаў не знойдзеш у ніводным гербоўніку. Прозвішча Балаховіч і сёння часта выступае сярод жыхароў аколіц Браслава і Глыбокага. „Булак" гэта ўласнабеларускае слова, якое абазначае „воблака", праўдападобна гэта папросту клічка аднаго са шматлікіх адгалінаванняў Балаховічаў.

Палац, у якім нарадзіўся будучы генерал, належаў вядомай сям'і Мейштовічаў. Пабудаваў яго ў палавіне XIX ст. Шымон Мейштовіч. У тым палацы бацька Станіслава, Нікадым Міхал, быў кухарам, а маці Юзэфа — пакаёўкай.Юзэфа была дачкой Язэпа Шафрана, кухара Корвін-Мілеўскіх з Ашмяншчыны. У 1867 г. Марыя Корвін-Мілеўская ішла замуж за Оскара Мейштовіча. Калі ехала шлюбаваць, гожанькая пакаёвачка Юзя ўчапілася паненчынай спадніцы, молячы праз слёзы ўзяць яе з сабою. Такім чынам Юзэфа апынулася ў Мейштах. Улічыўшы такую радаслоўную, смела можам лічыць Станіслава кухарчыкам.

Імя ўзяў ён па сваім хрышчоным, Станіславе Нязбытоўскім з Алешавіч, які заехаў на Вялікдзень да свайго школьнага сябра Міхала, найстарэйшага з сыноў Шымана Мейштовіча.

Нейкі час пасля нараджэння Станіслава, Балаховічы арэндавалі зямлю ў Мейштовічаў у маёнтку Стакапіёва на Браслаўшчыне. Тут нарадзіўся ім сын Юзік (які таксама пакінуў свой след у гісторыі) і чатыры дачкі.

Станіслаў, як сам ён успамінае, змалку да шаленства любіў коней, асабліва тэмпераментных, нат наравістых, якіх прыручваў дабратой і пяшчотамі. Кажуць людзі, што ніколі не ездзіў ён інакш як галопам. Апрача таго, следам за бацькам, выдатным паляўнічым, любіў ён паляваць на качкі і цецерукі, якіх многа было тады ў аколіцы.

Сельскае выхаванне і любоў да коней паўплывалі на выбар будучай прафесіі. Станіслаў закончыў сярэднюю сельскагаспадарчую школу і пасля практыкі ў Мейштовічаў і Броель-Плятэраў у Бяльмонтах, стаў упраўляючым у маёнтку графаў Зыберк-Плятэраў Гарадзец-Лужкі ў Дзісненскім павеце.

Аграмадны і ўзорна ведзены маёнтак Зыберк-Плятэраў вылучаўся сваёй конегадоўчай фермай. Плятэры былі вялікімі аматарамі коней ангельскай пароды, прычым граф Віктар глядзеў на іх вокам эстэта, ганарыўся іх выглядам і паставай, а ягоная жонка Марыя патрабавала ад коней працы. Паводле яе, жарабцу трэба было многа сонца, паветра і руху. Дык няма дзіва, што гарадзецкія коні славіліся на ўсю аколіцу. Фермай, між іншым, заняўся новы аграном. Дзесяць гадоў (1904—1914) правёў ён у сядле, наведваючы аддаленыя фальваркі і адпраўляючыся ахвотна ў, распаложаныя ў трыццаці з нечым кіламетраў, Глыбокае і Дзісну.

Гарадзец і Лужкі, хаця лічацца аднойю мясцовасцю, раздзелены рэчкай. Непадалёк маста стаяў вялікі і прыгожы дом доктара Гарбеля. Дом патанаў у зарасніках разнаколернага бэзу, які далей пераходзіў у немалы сад. Малады графскі ўпраўляючы відаць ездзіў праз мост не толькі галопам, бо прыкмеціў доктараву дачку і ажаніўся з ёю. Гарбялянка дала яму двух сыноў. У 1910 нарадзіўся Медард Юліян, год пазней Гендрык.

Застаецца яшчэ накрэсліць духовы вобраз героя, было не было будучага начальніка беларускай, няхай сабе і двухтыднёвай, дзяржавы. Ужо само месца нараджэння Станіслава, успомненая вежа, прыводзіць гістарычныя асацыяцыі. Першым яе жыхарам, калі яшчэ аплецена была яна рыштаваннямі, быў студзеньскі паўстанец, які ў 1863 годзе напаўжывым прыввалокся ў палац. Малады дзедзіч завёў яго ў нейкі закутак вежы, і, прыдумаўшы нейкую зручную прычыну, спыніў яе далейшую будову і праз год, у глыбокай таямніцы сам апоўначы карміў і абслугоўваў уцекача. Атмасфера панскіх двароў уплывала на службу і ўсялякага роду служачых, пра што сведчыць хаця б само студзеньскае паўстанне. Балаховічы былі каталікамі, а каталіцызм і тады (хоць у значна меншай ступені чым цяпер) спалучаўся з пальшчызнай. Палячкай лічылася маці Станіслава (хаця была з тутэйшых, бо Шафранаў многа ў той старане) і няма дзіва, калі ўлічыць атмасферу дому Корвін-Мілеўскіх, у якім выхавалася. Брат ейнай пані, Гіпаліт, лічыў існаванне нейкіх беларусаў недарэчнай выдумкай, а беларускую мову — за прыгодную хіба што толькі для фурманоў. Не падзяляў падобных поглядаў кухар Нікадым Балаховіч і астаўся свядомым беларусам. Насуперак пану Гіпаліту, беларускае нацыянальнае пачуццё начало пашырацца ў пачатку XX ст. у ягоным Ашмянскім павеце, таксама як і ў Дзісненскім. Гэтыя паветы, побач з не-

*Працяг на стар. 8*

Ліст у рэдакцыю

**КОРАТКА І ЯСНА?**

Коратка гэта праўда, але ці ясна, вось над гэтым трэба задумацца.

Беларусы, якія жывуць у Польшчы, а найбольш іх на роднай Беласточчыне, наракаюць на матэрыяльныя ўмовы, у якіх апынуўся беларускі рух. Няма грошай абсалютна на ўсё і няма адкуль іх узяць, каб весці нейкую дзейнасць, дзеля якой існуе хаця б Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Яно яшчэ існуе, але ўжо фінансава ледзь дыхае. Няма грошай нават на арэнду памяшканняў, якімі дагэтуль карысталася Таварыства ў Беластоку, Варшаве, Гданьску. Штатных працаўнікоў ужо звольнілі з працы, бо няма чым ім плаціць.

Ведаўшы такую сітуацыю, кожны разумны чалавек, няхай сабе і не член Таварыства, падумае: „Шкада, што прападае чарговая кветка з агульнага вянка польскай культуры. Гэтая кветка ў выглядзе мастацкіх калектываў, школ, музея і наогул беларускага жыцця ў Польшчы, сохне і завяне, калі дзяржава, якой беларусы з'яўляюцца грамадзянамі, не дафінансуе, каб затармазіць такім чынам працэс упадку беларускай нацыянальнай культуры ў Польшчы".

Гэтак сабе ўяўляе праблему рэаліст, які баіцца за сваё роднае, блізкае і надта ж патрэбнае. А што думае і як сітуацыю беларусаў у Польшчы ацэньвае прадстаўнік Рэспублікі Беларусь, пасол гэтай дзяржавы ў Польшчы спадар Уладзімір Сянько. Вось 24 жніўня 1992 года ў тэлеперадачы „Кур'ер ваяводстваў"на пытанне журналіста, якія бачыць праблемы беларусаў у Польшчы, пасол коратка, на польскай мове, адказаў: „Беларусы ў Польшчы ніякіх праблемаў не маюць".

А я, наіўны, думаў, што дыпламаты гавораць многа, але так, каб ніхто нічога не зразумеў. Беларускі дыпламат выказаўся аднак вельмі ясна, хаця коратка, але... сказаў няпраўду. Бо я асабіста чуў па радыё, якія праблемы ставілі перад паслом РБ прадстаўнікі БГКТ у час сустрэчы. Цяпер не ведаю, як ставіцца да тых, хто мае намі цікавіцца з боку Пасольства Рэспублікі Беларусь і наогул улад рэспублікі. А можа няхай лепш намі не апякуюцца, дык не будуць нам перашкаджаць? А мо ў дыпламатыі так і трэба?

*(прозвішча да ведама рэдакцыі)*

# ЧАС ШАКАЛАЎ

*Працяг са стар. 1*

патрыятызм.

Змена ўлады не прынесла эканамічнага цуду. Замест яго мільёны людзей асталіся без працы, а тыя, што працавалі, наракаюць не менш, чым раней. Далей шалее карупцыя і крадзеж грамадскай маёмасці. Улада дае прэстыж і ўплывы большыя, чым раней. Варта было за яе змагацца. Толькі якіх аргументаў шукаць, каб яе здабыць, як пераканаць грамадства, якое перастала верыць не толькі ў „сацыялістычныя вартасці" але і ў капіталізм і дэмакратыю. У якім напрамку накіраваць прапаганду, каб узварухнуць людзей? Найменш канкрэтныя і найлепш успрымальныя лозунгі гэта „ратаваць нацыянальныя вартасці і традыцыю народа". Найчасцей карысталіся імі палітыкі тых краін, дзе нацыянальнай традыцыі нішто і ніколі не пагражала. Іншая справа, што часта за пасольскія крэслы сталі змагацца тыя, якім больш пасавала б пайсці ў псіхіятрычны шпіталь, чым у парламент.

Трэці фактар, які ў кожным грамадстве спрыяе развіццю нацыяналістычных ідэй, гэта эканамічны крызіс. У капіталістычным грамадстве выклікае ён двухбаковы радыкалізм — камуністычнага і нацыяналістычнага характару. У постсацыялістычным, з увагі на кампраметацыю аднаго з гэтых напрамкаў, кожны плебейскі рух паслугоўваецца нацыянальнай рыторыкай. Расчараваныя рэчаіснасцю людзі найчасцей ідуць за тым, хто рашуча крычыкуе і найбольш абяцае, а пры нагодзе пераконвае, што думае толькі і выключна пра народ.

У былых сацыялістычных краінах, якія апошнімі ўвайшлі на дарогу зменаў (Савецкі Саюз, Югаславія, Румынія), большасць камуністычных лідэраў амаль вокамгненна пераўтварыліся ў нацыяналістаў. Яны зразумелі, што толькі на хвалі нацыянальных ідэй можна астацца пры ўладзе. А калі паявілася нагода пабольшыць аб'ём гэтай улады (Югаславія), без ніякага сумнення выклікалі яны міжнацыянальны канфлікт. Не важныя ім дзесяткі тысяч забітых, пакуты і слёзы мільёнаў суродзічаў. Калі мэта дасягнута — улада застаецца ў руках.

„Сацыялістычная Еўропа братніх народаў" аказалася фікцыяй. Ніякія фальшывыя лозунгі не заглушылі нацыянальных пачуццяў і, калі зніклі ўсе бар'еры, якія перашкаджалі дэманстраваць народам свае адчуванні, пачалося гэтае нацыяналістычнае шаленства.

Шавінізмам хварэе не толькі ўсходняя Еўропа. Французы пра нейкага Ле Пэна слухаюць у сродках масавай інфармацыі часцей, чым пра свайго прэзідэнта. У Нямеччыне амаль цэлы тыдзень паліцыя ганяла маладых фашыстаў, якія рваліся біць палякаў, туркаў і неграў.

Толькі час пакажа, ці гэта часовая хвароба, ці канец ліберальна-дэмакратычнай эпохі.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**



# УРАЧЫСТАЕ ПЕРАНЯСЕННЕ МОШЧАЎ СВ. ГАЎРЫІЛА

У днях 21—23 верасня 1992 г. будзем сведкамі вялікай падзеі, якой дагэтуль не было ў гісторыі Праваслаўнай царквы ў Польшчы. У гэтыя верасьнёўскія дні вернуцца на нашую Беластоцкую зямлю мошчы яе Сына — св. Мучаніка Дзіцяці Гаўрыіла Заблудаўскага, які загінуў пакутніцкай смерцю ў 1690 годзе.

Святыя мошчы будуць захоўвацца ў Кафедральным саборы св. Мікалая ў Беластоку. Вяртанню мошчаў будзе спадарожнічаць урачыстае іх перанясенне з Гродна і пачнецца яно ў тамашнім Саборы 21 верасня — у дзень Нараджэння Прасвятой Багародзіцы (Прачыстай). *Дэталёвую праграму ўрачыстасці друкуем ніжэй.*

У гэтай вялікай падзеі павінны прыняць удзел многія праваслаўныя хрысціяне. Ад нас, бацькоў, залежыць, колькі дзяцей і моладзі прыйдзе прывітаць мошчы свайго Заступніка. Памятайма аб гэтым! Хай, як мага, найбольшая колькасць вернікаў прывітае адзінага Святога з нашай зямлі. Калі хто зможа, хай паедзе ў Кузніцу (індывідуальна або аўтобусамі з паасобных прыходаў) або ў Саколку. Астатнія праваслаўныя жыхары Беластока хай прыйдуць на акраіну горада (каля „Сілікатаў"), каб тут, у хрэсным ходзе, чакаць прыбыцця святых мошчаў. Памятайма, што ўдзельніцтва будзе доказам нашай веры, любоўі да Госпада і яго ўгоднікаў, а таксама знакам адданасці Святому Праваслаўю.

С.Н.

Фота Міраслава Цімашука



## ПРАГРАМА

**ўрачыстасці перанясення мошчаў св. Мучаніка Дзіцяці Гаўрыіла з Гродна ў Беласток у днях 21-23 верасня 1992 г.**

**21 верасня:**

гадз. 17.00 - прывітанне мошчаў на дзяржаўнай граніцы,

17.30 - хрэсны ход у царкву ў Кузніцы /час шэсця - 40 мінут/,

18.10 - спяваны акафіст св. муч. Гаўрыіла і пропаведзь /на ўрачыстасць адводзіцца 90 мінут/,

19.40 - хрэсны ход з царквы на ўзмежжа пасёлка Кузніца /час шэсця - 30 мінут/,

20.10 - 20.25 - час на фармаванне калоны аўтамашын,

20.25 - 20.45 - пераезд у Саколку,

20.45 - прывітанне мошчаў жыхарамі Саколкі і хрэсны ход па вуліцы Гродзенскай у царкву св. Аляксандра Неўскага /час шэсця - 40 мінут/,

21.30 - 21.45 - малебен,

21.45 - 22.30 - пакланенне вернікаў мошчам,

22.30 - 24.00 - усяночная,

24.00 - акафіст св. муч. Гаўрыіла.

**22 верасня:**

гадз. 2.00 - акафіст да Божай Маці,

4.00 - вадасвятны малебен,

5.00 - падрыхтоўка да Літургіі, Праскамідыя, Часы,

6.00 - Архірэйская Літургія,

9.00 - фармаванне хрэснага ходу,

9.30 - 10.00 - хрэсны ход па вул. Беластоцкай да межаў горада,

10.00 - 10.20 - фармаванне аўтакалоны,

10.20 - 10.45 - пераезд аўтакалоны ў Чорную-Беластоцкую,

10.45 - 11.20 - хрэсны ход праз Букшталь у царкву св. Жон Міраносіц,

11.20 - 12.20 - малебен,

12.20 - 12.45 - вяртанне хрэснага ходу на Беластоцкую шашу і фармаванне аўтакалоны,

12.45 - 13.10 - пераезд у Васількаў,

13.10 - 14.00 - прывітанне мошчаў жыхарамі Васількова і хрэсны ход у царкву св. апосталаў Пятра і Паўла,

14.00 - 15.30 - спяваны акафіст і пропаведзь,

15.30 - 16.00 - пераход да аўтакалоны, якая будзе знаходзіцца на вуліцы насупраць царквы і пераезд у Беласток да месца будовы аўтазаправачнай станцыі /ЦПН каля «Сілікатаў»/, дзе будзе чакаць хрэсны ход з жыхароў Беластока і і Беласточчыны.

**АРГАНІЗАЦЫЙНАЯ ЗАЎВАГА:**

Аўтамашыны, якія ўдзельнічаюць у калоне ў Кузніцы, Чорнай-Беластоцкай, Васількове і прыедуць у Беласток, затрымоўваюцца на правым баку дарогі і не мяняюць месца ў калоне, каб аблегчыць паломнікам вышукоўванне сваіх машын. **У Саколцы**, калі пачнецца хрэсны ход, па загаду парадкавых службаў машыны ад'язджаюць на назначанае месца стаянкі, а 22 верасня, перад пачаткам хрэснага ходу, выязджаюць яны на граніцу горада і чакаюць у калоне, на правым баку дарогі, на паломнікаў. **У Беластоку** машыны з аўтакалоны, пасля выхаду з іх паломнікаў, але яшчэ перад хрэсным ходам, ад'язджаюць на стаянкі. Калі аднак колькасць вернікаў будзе большая ад спадзяванай і дарога будзе занята вернікамі, тады калона чакае ўказаннаў парадкавых службаў наконт месцаў стаянкі.

16.00 - 17.00 - пераход у царкву Усіх Святых /3100 метраў/,

17.00 - 17.30 - удзельнікі хрэснага ходу астаюцца на вул. Высоцкага; у царкве малебен для хворых і састарэлых,

17.40 - 19.00 - вяртанне мошчаў у галаву хрэснага ходу і шэсце ў Кафедру св. Мікалая на вул. Ліповую,

19.00 - 19.30 - малебен у Кафедры,

19.30 - 21.00 - пакланенне вернікаў мошчам,

21.00 - 23.00 - усяночная,

23.00 - спяваны акафіст св. муч. Гаўрыіла.

**23 верасня:**

1.00 - акафіст да Божай Маці,

3.00 - акафіст да св. Мікалая,

4.00 - ранішняя св. Літургія,

6.00 - вадасвятны малебен,

8.30 - Архірэйская св. Літургія, хрэсны ход вакол Кафедры, перанясенне мошчаў на месца іх пастаяннага захоўвання.

Ва ўрачыстасці будуць прымаць удзел іерархі Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, а таксама ўлады Гродзенскай вобласці і Беластоцкага ваяводства.






# КУЛЬТ БАГАРОДЗІЦЫ НА БЕЛАРУСІ

Беларусы прынялі хрысціянства ў візантыйскім абрадзе і таму спачатку фармавалі сваю набожнасць паводле візантыйскіх традыцый. Культ Багародзіцы ў іх, пасля перамогі над іконаборчаю ерассю, быў моцна развіты. Можна сказаць, што асаблівая пашана да Багародзіцы на Беларусі ёсць так даўняя, як і самое хрысціянства. Большасць першых цэркваў, пабудаваных на нашых землях, была прысвечана Багародзіцы. Самая першая з іх у Полацку, у канцы X стагоддзя, была Багародзічнай. У Тураве пабудавана царкву ў гонар св. Спаса, але другая была ўжо прысвечаная Багародзіцы. У Пінску, паводле мясцовай традыцыі, першая царква таксама мела быць Багародзічнай.

У XI стагоддзі першыя цэрквы ў гонар Багародзіцы з'явіліся ў Віцебску — Дабравешчанская, Драгічыне — Багародзічная, Камянцы — Дабравешчанская, Смаленску — Успення Багародзіцы. Адным з праяваў культу Багародзіцы ёсць пашана да яе цудатворных іконаў. Першыя цудатворныя іконы паяўляюцца на тэрыторыі Беларусі ўжо ў XII стагоддзі: Смаленская, Свірская, Корсунская, Купяцкая. Агулам на Беларусі было больш чым шэсцьдзесят цудатворных багародзічных іконаў, вядомых не толькі на нашых землях але і ў суседніх краінах.

Трэці элемент культу Багародзіцы выводзіцца з дагматычнага акрэслення маці Ісуса Хрыста. Дагматыка спалучаецца тут са старажытнай візантыйскай традыцыяй, паводле якой у літургічных тэкстах Марыя называлася Прачыстай, Пранепарочнай, Часнейшай за Херувімаў і Слаўнейшай за Серафімаў, Нясквернай, Пранарэчаннай, Адзінай Непарочнай, Новым Небам, Адзінай Бязгрэшнай. Паводле гэтае традыцыі Багародзіцу праваслаўныя беларусы называлі проста Прачыстаю і гэтым словам азначалі яе святыні Успення Багародзіцы — Вялікая або Першая Прачыстая і Нараджэння Багародзіцы — Малая або Другая Прачыстая. Нашы багасловы захоўвалі верна гэтую традыцыю.

Царкоўная традыцыя мела падставовы ўплыў на народныя звычаі. У абрадавых і бытавых беларускіх народных песнях вельмі часта выступае Багародзіца ў вобразе Маці, якая спяшаецца на помач туды, дзе людзі самі ўжо нічога не могуць зрабіць. І таму амаль кожнае Багародзічнае Свята на Беларусі суправаджалася нейкімі асаблівымі паралітургічнымі абрадамі (на Грамніцы, на Дабравешчанне, на Успенне Багародзіцы, на Раство Багародзіцы, на Пакрову).

А. МІРАНОВІЧ

# ХАЦЕЛАСЯ Б НЕ ДУМАЦЬ ПРА ФІНАНСЫ

І ў вясковых школах пачаўся навучальны год. 1 верасня прайшло ва ўсёй краіне ўрачыстае адкрыццё школьных заняткаў. Дзень гэты мае выключны характар - не трэба яшчэ прыносіць сшыткаў, не трэба рыхтавацца да ўрокаў.

У пачатковай школе ў Кленіках 1 верасня вучні і настаўнікі сабраліся на першым паверсе. Запачаткаў урачыстасць дырэктар Ян Лабузінскі /функцыю гэту выконвае толькі ад чэрвеня/, які, між іншым, сказаў пра прынцыпы фінансавання школы ў новым годзе. Пасля дырэктара выступіў госць урачыстасці войт гміны Чыжы Рыгор Мацкевіч, які са свайго боку паабяцаў, што Гмінная ўправа, па меры сваіх магчымасцяў, будзе аказваць фінансавую падтрымку школе.

Сёння сітуацыя пачатковага школьніцтва ў краіне даволі заблытаная. Частку школ узялі на свой кашалёк гмінныя самаўрады /у Беластоцкім ваяводстве тры такія гміны: Нарва, Вышкі і Дубічы-Царкоўныя, а іншыя школы, у тым ліку і кленіцкая, фінансуюцца з дзвюх касаў - з кураторый асветы і з гмінных управаў. Гміна зазвычай, як і ў выпадку Кленік, фінансуе прадшкольны аддзел і давоз дзяцей. У выпадку самаўрадавага школьніцтва сітуацыя



*Дырэктар Падставовай школы ў Клейніках.*

простая - спонсарам такой школы практычна з'яўляецца войт, які ў пэўнай меры вырашае аб кадравай палітыцы ды ўсім іншым. Куратар асветы ў дачыненні да такой школы мае права ўсяго на педагагічны нагляд /ці, так бы мовіць, педагагічны курс школы не парушае дзяржаўных інтарэсаў краіны/. Такога яснага падзелу кампетэнцый у несамаўрадавым школьніцтве няма.

У пачатковую школу ў Кленіках, акрамя мясцовых вучняў, ходзяць яшчэ дзеці з дзесяці навакольных вёсак /Ляхі, Гародчына, Радзькі,Істок, Вялікія і Малыя Тыневічы, Лапухоўка, Гуковічы і Сапава/. Дзеці з гэтых вёсак складаюць больш за дзве трэція агульнага ліку вучняў. Усіх іх у класах I-VIII - 112. Прадшкольны аддзел у Кленіках /5- і 6-годкі/ налічвае 27 дзяцей. Агулам - няшмат. Адзначу тут, што і аўтар гэтага артыкула, вучыўся ў кленіцкай школе. На пачатку васмідзесятых гадоў, як падлічылі мы з дырэктарам, у Кленіках вучылася ці не ў тры разы столькі, што сягоння. А трэба тут сказаць, што ў той час не было яшчэ прадшкольных аддзелаў. Што ж, школам цяжэй стала ў эканамічным сэнсе, мяняецца таксама іхні воблік. Нязменным застаецца, бадай, адно - хваляванне першакласнікаў ад першага сутыкнення са школай, іхняе абяцанне, дадзенае настаўнікам, бацькам і старэйшым сябрам беззаганна паводзіць сябе і прыкладна вучыцца. Я сам ужо таго моманту не памятаю, дый не памятаю, ці наогул я і мае сябры абяцанне такое давалі ў 1973 годзе. Адно ўражанне аднак засталося - першы кантакт са школай усвядоміў нам у той час, што ёсць на свеце мова іншая ад тае, на якой гаворыш з бацькамі.

Нягледзячы на тое, што цяпер нават на вёсцы бацькі выхоўваюць сваіх дзяцей па-польску і нягледзячы на добраахвотнасць вывучання беларускай мовы, у школе ў Кленіках усе дзеці вывучаюць гэты прадмет. Настаўніцай беларускай мовы ў Кленіках працуе Вера Флёрчук. Калі прыгадваю цяпер ўрокі беларускай мовы ў Кленіках, дык памятаю, што тады ніхто з настаўнікаў не пытаў ні нас, ні нашых бацькоў пра наша жаданне вучыцца беларускай мовы. У школе звычайна праводзіліся ўрокі гэтага прадмету як і кожнага іншага. Гэта, па-свойму, і прычыніліся да таго, што ў сталым жыцці сталі мы такімі, а не іншымі.

У мастацкай частцы на адкрыцці навучальнага года ў Кленіках выступалі вучні старэйшых класаў. Між іншым, хлапечы гурт выканаў адзін з гітаў групы Scorpions, а пасля яго салістка праспявала нешта, чаго я ўжо не распазнаў, у стылі дыска. Выступы гэтыя суправаджаліся бурлівымі воплескамі залы - атмасфера нагадвала часамі не школу, а рок-канцэрт. Пасля гэтага вучні разыйшліся ў школьныя залы на сустрэчы са сваімі апекунамі.

Я наведаў яшчэ школу ў Чыжах.

У Чыжах, калі я запытаў дырэктара Сяргея Насковіча, пра ягоны настрой пасля першага дня школы, той адказаў, што да гэтага дня ягоная школа добра падрыхтавалася. Але, калі прыйдзе той перыяд, у якім трэба будзе пачаць абаграваць школьны будынак - можа быць па-рознаму. У эканамічных справах, адзначыў дырэктар Насковіч, кіраўніцтва школы спадзяецца на дапамогу бацькоў. На гэтых жа бацькоў свае спадзяванні ўскладваюць па ўсёй краіне не адны дырэктары, але кураторыі асветы і само міністэрства. У Чыжах бацькі са зразуменнем ставяцца да эканамічных клопатаў школы.

У чыжоўскай пачатковай школе адна справа аднак вырашана як след. Звярнуў мне на яе ўвагу войт гміны. Школа мае сваю невялікую гаспадарку. Гміна перадала школе 5 гектараў зямлі, з чаго 4 га ворнай. Школа гаспадарыць на ёй і вядзе сваю гадоўлю. Толькі што, адзначыў дырэктар, адзін вяпрук палажыў сваю галаву. Вядома ж, на патрэбы школьнай сталоўкі. Ці ведаеце колькі ў Чыжах дзеці плацяць за абеды? Ніколі не падумалі б! У Чыжах за поўныя абеды вучань плаціць... 70 тысяч злотых у месяц.

Настаўніцкая кадра ў Чыжах, адзначыў дырэктар, людзі наогул з вышэйшай адукацыяй і педагагічнай падрыхтоўкай. Няма толькі настаўнікаў па фізічнай культуры і пластыцы, але гэта ўжо агульная з'ява. Нідзе ў Чыжоўскай гміне такіх настаўнікаў няма. Яны ў гарадах. Ну, бо і што, адзначыў дырэктар Насковіч, вясковая школа можа такому настаўніку прапанаваць. Эх, хацелася б урэшце перастаць думаць пра эканамічныя справы школы, а ўзяцца за педагагічную працу. Тут у размову ўварваўся войт Мацкевіч і сказаў, што такое адбудзецца пасля 1 студзеня. Відаць, войт намерваецца пераняць школу.

Ідзе цяпер гаворка, сказаў дырэктар, пра ўвядзенне ў пачатковы школы элементаў інфарматыкі. Як жа ж гэта арганізаваць? Акрамя страшэннага кошту абсталявання яшчэ клопат і з чалавекам, які правёў бы такія заняткі. Ляжыць у школе 23 камплекты падручнікаў па нямецкай мове і камплект аўдыёкасет - падарунак пасольства Нямеччыны ў Польшчы. Добра было б увесці ў школе дзве гадзіны заходняй мовы ў тыдзень...

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**
**Фота аўтара**



*Першакаласкнікі глядзяць выступленні старэйшых сяброў.*





*Гаспадарскія будынкі на школьным пляцы ў Ч ыжах.*

## НАВУЧАННЕ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Колькі дзяцей будзе вучыцца беларускай мовы ў пачатковых школах Беласточчыны ў 1992/93 навучальным годзе? Кураторыя асветы ў Беластоку пазаказвала ў школах усялякія статыстыкі, у ліку якіх і пытанне пра колькасць дзяцей, што вывучаюць беларускую мову. Праз нейкі час стануць вядомымі дакладныя лікі, а пакуль што можна заглянуць толькі ў ранейшыя статыстычныя даныя.

У мінулым навучальным годзе беларускую мову вывучала 3.508 вучняў у пачатковых і сярэдніх школах. У параўнанні з 1990/91 годам лік гэты паменшыўся на 169 вучняў. У пачатковых школах беларускую мову вывучала 2.878 вучняў, што на 155 менш, чым год раней.

Школы, у якіх найбольш дзяцей вывучала беларускую мову: н-р 3 у Бельску-Падляшскім /912 вучняў, 100 працэнтаў агульнай колькасці вучняў/, Кленікі /102, 99%/, Орля /192, 86,9%/, Дубіны /124, 80%/, Чыжы /145, 84,3%/.

Школы, у якіх найменш дзяцей вывучала беларускую мову: н-р 1 у Гайнаўцы /18, 1,6%/, н-р 2 у Гайнаўцы /13, 0,9%/, Гарадок /4, 0,7%/.

Здзіўляе надзвычай малая колькасць навучэнцаў беларускай мовы ў Гарадку. У мясцовасці, дзе па-беларуску гаворыш у краме, кнайпе, ці ў гміне - бацькі не жадаюць, каб іх дзеці вывучалі родную мову! Ой, студэнты з БАСу, вы падумайце пра лёс свайго «Басовішча».

/ам/



# ФЭСТ У СЯМЯЦІЧАХ

Пра беларускія фэсты пачалі ўжо ў нас людзі забываць. Калісьці Беларускае грамадска-культурнае таварыства арганізавала іх па многіх вёсках і мястэчках Беласточчыны. Але апошнімі гадамі іх колькасць усё меншала, меншала і амаль зусім зніклі яны з нашага культурнага кругагляду.

Сёлета як быццам штосьці зварухнулася з месца. БГКТ зноў ладзіць такія святкаванні ў розных мясцовасцях. Нядаўна праводзіўся фэст у Кляшчэлях, а тыдзень пазней, у нядзелю 30 жніўня адбыўся падобны ў Сямяцічах. «Падобны» аднак толькі па характары, бо розніца між імі фактычна аграмадная. Паколькі першы быў сапраўдным народным святам, дык другі - адно невялікім канцэртам, які напэўна не замацаваўся ў свядомасці жыхароў горада.

Хаця арганізатары пастараліся пра добрых выканаўцаў - «Цаглінкі» з Ляўкова, «Красуні» з Краснага Сяла, «Каліна» з Дашоў, «Хлопцы-рыбалоўцы» з Рыбалаў, «Васілёчкі» з Бельска ды хор Гайнаўскага дома культуры, - аднак рэклама імпрэзы была слабая. У самім горадзе я не бачыў ніякіх плакатаў, на месца фэсту, спартыўную пляцоўку Пачатковай школы н-р 2, ледзь трапіў. Па ўсяму было відаць, што няма ў Сямяцічах мясцовага беларускага актыву, на які раней абапіралася ў сваёй дзейнасці БГКТ. Новых людзей трэба толькі вышукоўваць, узгадоўваць. Мо вырастуць яны ў будучыні з ліку маладых, якія прысутнічалі на канцэрце. А трэба зазначыць, што якраз вялікую частку публікі /нешматлікай, каля 200 чалавек/ складала моладзь. Гэта, хоць у нейкай ступені, абнадзейвае на трыванне беларускасці ў ваколіцах Сямяціч, дзе ўжо нават пры цары некаторыя праваслаўныя вёскі гаварылі па-польску.

Як праходзіў сам канцэрт? Ну што ж, канцэрт як канцэрт, выканаўцы стараліся паказацца з як найлепшага боку, публіцы гэта падабалася - не скупілася яна на воплескі. Падабалася таксама абяцанне старшыні ГП БГКТ Аляксандра Баршчэўскага, што ў будучыні таварыства прывязе ў Сямяцічы калектывы з Беларусі. Зразумела, калі дазволяць фінансы. Так, усё круціцца вакол грошай і ад гэтага нідзе не дзенешся. Грошы патрэбныя нават на арганізаванне самага сціплага канцэрта.

Сямяціцкі фэст здаўся мне спачатку якраз вельмі сціплым, нават убогім, перш за ўсё з прычыны малалікасці гледачоў. Але змяніў я яго ацэнку пасля размовы са спявачкамі з Чаромхі. Расказалі яны мне, што ў Сямяцічах, бывала, даводзілася ім выступаць і для нейкіх 15 чалавек. У параўнанні з тым дзве сотні гледачоў на сёлетнім фэсце набіраюць зусім іншага вымярэння. Аж хочацца ўскрыкнуць: «Жыве Беларусь»!

І сапраўды, якое б гэтае жыццё ні было, але тліцца яно і на Пабужжы, у тых самых Сямяцічах, якія вонкава здаюцца цалкам ужо апалячаныя. Варта ў будучыні паклапаціцца пра імпрэзы там, хай сабе і невялікія, не паказныя, але ўсё ж беларускія. Калі нават і не застануцца яны ў свядомасці цэлага горада, дык можа захаваюцца хаця ў свядомасці некаторых яго жыхароў. Дзеля гэтага ўжо варта.

МІКОЛА ВАЎРАНЮК





*Спяваюць „Цяглінкі" з Ляўкова.*



*Вялікую частку нешматлікай публікі складала моладзь.*

# З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**03-12-1988 г.**

«Nowa Koalicja» н-р 6 - 1988. Выдавецтва «Myśl». Часопіс польскай апазіцыі, прысвечаны Усходняй Еўропе. У раздзеле «Białoruś» - вядомыя «Лісты да Гарбачова»; вельмі нервовая палеміка Скарадзінскага-Падляскага ў мой адрас /.../. От, яшчэ адна - нічога, што правакатарская - публікацыя дзеля пашырэння зацікаўленасці намі... І знамянальная карта на 4-ай стар. вокладкі: Беларусь як краіна, у якой крыжуюцца ўсходнееўрапейскія геапалітычныя восі; аднача́сна найбольш мёртвы палітычна арэал.

Палякі штурхаюць нас, каб і мы заварушыліся. Розніца ў параўнанні з мінулымі эпохамі даволі капітальная: ужо прызнаюць яны нас як народ, нацыю /дзеля гэтага стрэблілася ім амаль веку/. У гэтым кантэксце трэба, відаць, разглядаць ініцыятыву ўтварэння таго Клуба беларускай палітычнай думкі. Польская гэта інспірацыя.

**04-12-1988 г.**

Напісалася «Нечаканы ўспамін», даслоўна на працягу некалькіх дзён. Пачалося ад сну, - самалёт на небе, паўвеку назад, недзе ў полі каля Александроўкі, - ад якога прачнуўся з нявыказным сумам прамінання /жыццё і канец/.

Думаючы аб Скарадзінскім: чаму ён так скача на мяне, як быццам цкуючы?! Не ведае аб тым, што сярод польскіх рэцэнзентаў «Białorusi, Białorusi» ён... адзін /можа яшчэ Баўэр з рэд. «Zdanie» ды нейкі ананім у беластоцкім «Bez debitu».../?

**05-12-1988 г.**

На сустрэчы з Анатолем Вярцінскім, з супрацоўнікамі «Нівы». Нічога новага пасля стольких страшных публікацыяў у «Літаратуры і мастацтве» /тыраж - да 20 тыс. экз., удвая ўжо/. Ён атрымаў ад мяне ўсё, што я яму паслаў быў або перадаў /падзякваць, хоць паштоўкай, забаяўся/.

Барскі, які і Вярцінскаму арганізаваў прыезд, рашае пра нашы кантакты з імі. Падобную сітуацыю для сябе ён спрабаваў наладзіць і на лініі сувязяў з Захадам, але яму гэта не выйшла. Укалоў мяне пры людзях хоць гэтым, што МУС нібы настаяў на тым, каб улічыў ён маю кандыдатуру у члены Прэзідыума ГП БГКТ /разумейце: Яновіч - падазроная асоба/. Банальны «стукачоўскі» метад.

З Таняй - на спектаклі Куйбышаўскага тэатра «Дальше, дальше, дальше...» Узровень слабы, публікі мала, тэма для Польшчы не так значная.

З Марандай, дыр. Аддзела культуры ВУпр. /15-16,00/. Уладам в. хочацца, каб узнік у Беластоку Аддзел ZLP /на 45-ым годзе ад вайны!/. А мог жа быць у 1972-ім, як добра тое памятаю я.

**08-12-1988 г.**

На сустрэчы беластоцкіх уладаў з тутэйшымі літаратарамі /палац у Харошчы/. Будзе, урэшце, Беластоцкі аддзел ZLP! Супрацівіліся: Сідорскі са спрэжаным з ім Шаховічам, Амільяновіч /здаецца і Чыквін.../. Пераважылі галасы маладых, якіх было дастаткова дзеля арганізацыйнага мінімума 6-ці членаў-заснавальнікаў. Сідорскія перастануць быць адзіна важнай пісьменніцкай групоўкай у Беластоку, якая ўсім іншым начэплівала свае ярлыкі. У гэтых польскіх сварках беларусы могуць нешта выйграць для сябе толькі трымаючыся пачынанняў менавіта ўладаў у дадзеным становішчы. Усякая апазіцыя нічога істотнага не ўчыніць для нас, калі б нават і магла яна.

Ідэя Беларускага ж аддзела ZLP не можа быць канкурэнцыйнай з - Беластоцкім, як тэрытарыяльным. Яна мае звышваяводскі, усяпольскі характар.

Уручылі той Сярэбраны крыж заслугі. Сорамна было глядзець, як зайздросцілі - некаторыя - мне. Ну і чаго?!

Іронія часу: адмаўляючыся ад свайго ўдзелу ў гэтым Беластоцкім аддзеле ZLP мусіў бы я стаць побач... Амільяновіча і Сідорскага! І супроць усіх тых, хто не зычыць мне блага /і беларусам наогул/. Аддзел ZLP - канец манапольнаму гангу, што і выявілася ў па-дурному заядлых рэпліках сідоршчыкаў.

На маё здзіўленне спакойна выслухалі выступленне, у якім паўтараў я тэзы, шырэй выказаныя на форуме Канвента /будуць апублікаваныя WRNам?/.

*/Працяг будзе/*

Тлумачэнні:

- «Zdanie» - тадышні кракаўскі часопіс партыйнай творчай інтэлігенцыі; Збігнеў Баўэр - адзін з ягоных рэдактараў, з ліку т.зв. нацыянал-камуністаў;

- Анатоль Вярцінскі - галоўны рэдактар «Літаратуры і мастацтва», цяпер дзяржаўны дзеяч Беларусі;

- Марыя Маранда - адыграла пазітыўную ролю ў развіцці культурнага жыцця ў Беластоку і ваяводстве;

- Дыянізы Сідорскі, Аляксандр Амільяновіч, шукальнікі лёгкага хлеба - прывандравалі ў Беласток з глыбі Польшчы; будучы моцна звязанымі з папярэднімі вярхамі тутэйшых уладаў, адчулі пагрозу свайму прывілеяванаму становішчу, не вытрымліваючы пры тым канкурэнцыі з маладымі аўтахтоннымі аўтарамі, якія перавышвалі іх талентам і культурнасцю; з прыходам да ўлады «Салідарнасці», спрабавалі памяняць флаг.



## Бібліяграфічны кутočак

CIEMIŃSKI R.: Niełatwa ziemia. /Życie polityczne Białostocczyzny/. **Kultura** 1991 nr 3 s. 45-55.

SKARADZIŃSKI B.: Ziółkowski M.: Białoruska mniejszość narodowa w Polsce. **Obóz** 1990/91 nr 20 s. 17-28.

KONDRACKI J.: Republika Białoruska. **Geografia w Szkole** 1992 nr 1 s. 24-28, mapy.

DARSKI J.: Kronika litewska i białoruska. **Kultura** 1991 nr 4 s. 122-126.

SZACHOWICZ M.: Zagadka ludowa w warunkach polsko-białoruskiego **pogranicza kulturowego. Literatura Ludowa** 1991 nr 1/6 s. 37-56. Sum.

MAJECKI H.: Orientacje polityczne ludności wiejskiej wschodniej części województwa białostockiego w latach 1919-1926. **Zeszyty Naukowe Politechniki Białostockiej Nauki Społeczne** 1991 nr 14 s. 91-99. Sum. Rez.

ZIÓŁKOWSKI M.: Postawa polskiego Kościoła prawosławnego wobec władzy państwowej. **Obóz** 1990/91 nr 20 s. 29-40.

MIAZGA M.: «Ściana Wschodnia Polski» - zagrożenia czy szanse? Człowiek i Środowisko 1991 nr 1/2 s. 103-115, rys. Sum.

BARTOSZEWICZ A.: O lituanizmach w akademickim słowniku objaśniającym języka białoruskiego. **Studia i Materiały WSP Olsztyn** 1991 nr 29 s. 159-164.

CZERNIAWSKI J.: Oczekiwania studentów Politechniki Białostockiej i Politechniki Białoruskiej wobec pracy. **Zeszyty Naukowe Politechniki Białostockiej Nauki Społeczne** 1991 z 14 s. 49-55, tab. Sum. Rez.

GRĘBOWSKI R.: Cele i orientacje zyciowe studentow Akademii Medycznej, Politechniki Białostockiej i Politechniki Białoruskiej. **Zeszyty Naukowe Politechniki Białostockiej Nauki Społeczne** 1991 z. 14 s. 57-64 tab. Sum. Rez.

RYŻKO S.: Kronika parafii Łahiszyn. **Zeszyty Historyczne** 1990 z. 94 s. 94-123.

ZIELENIEWSKI J.: Delimitacja północno-wschodniego odcinka granicy państwowej między Rzeczpospolitą Polską a Związkiem Socjalistycznych Republik Radzieckich w latach 1944-1947 i zwiazane z nią problemy narodowościowe. Wybór źrodeł. **Rubieże,** Białystok 1992 nr 1 s. 46-61, aneksy.

CHORUŻY W.: Z redaktorem pisma Informacyjno-Kulturalnego Białostocczyzny Wschodniej «Czasopis» rozmawiał Waldemar Wilczewski. **Rubieże** 1992 nr 1 s. 114-115.

KOZŁOWSKI M.: Białoruskie pismo «Czasopis». Rubieże 1992 nr 1 s. 116-125.

**Р. С.**



# БАЛАХОВІЧ

*Працяг са стар. 4*

калькімі іншымі, стваралі якраз абшар кансалідацыі сучаснай беларускай нацыі.

Станіслаў, які лічыў сябе сынам беларускага селяніна, знаёмы быў з беларускім пытаннем, ведаў добра беларускую літаратуру і нават сам у яе трапіў, залічаны ў беларускія паэты самім Яўфімам Карскім. Лёгкасць, з якой валодаў ён беларускай мовай, сведчыць аб тым, што была яна яму роднай. Безумоўна, змалку ведаў і польскую мову, гэта ж была мова„яснепанства". Усё-такі яшчэ ў 1929 г. мусіў тлумачыцца са сваёй ненадта правільнай польскай мовы. Лепш хіба гаварыў па-расейску, асабліва ў пазнейшы, ваенны час. У адным з польскіх рапартаў з 1920 г. звяртаецца ўвага на тое, што браты Балаховічы ўнікаюць польскай мовы і між сабою дэманстратыўна гавораць па-руску. Па-руску, ці па-беларуску? - польскі дакладчык пэўна ж у такіх тонкасцях не разбіраўся.

Пачатак XX стагоддзя, апрача беларускага нацыянальнага адраджэння, прынёс таксама грамадскія патрасенні. У 1905 годзе Балаховічу давялося быць рэвалюцыйным суддзёю ў спрэчках між сялянамі і памешчыкамі Дзісненскага павета. Ужо тады сяляне назвалі 22-гадовага агранома „Бацькам". Гэтая клічка прыклеілася да Балаховіча на ўсё жыццё. Рэвалюцыйны эпізод выяўляе прыхаваныя магчымасці графскага служачага. Мейштовічы і Корвін-Мілеўскія, якія ўспамінаюць толькі шалёныя галопы Стася Балаховіча, не мусілі ведаць, што тоіцца ў ягонай душы.

У міжваенны перыяд Балаховіч цвердзіў, што ягоным лемантаром быў Г. Сянкевіч. Ведаем усё-такі, што не Скшатускі, Валадыёўскі ці Кміціц былі ўлюбёнымі героямі яго чытанняў, а толькі гогалеўскі Тарас Бульба, „лыцар" супрацьлеглага баку.

Як пагаджаў Балаховіч захапленне Тарасам са сваім каталіцкім сумленнем, застаецца яго таямніцай. Зрэшты, культурнае памежжа стварала незвычайнае змяшанне пачуццяў ды ідэяў. Так ці інакш, аповесць Гогаля паўплывала прыкметна на тое, што называецца „балахоўшчынай".

Мая бабуля, зямлячка Балаховіча, расказвала мне, што там у іх асобена схільнага да авантураў называлі „украінцам" і адсылалі яго словамі „Едзь на Украіну". Пэўне ж, гэта водгалас даўніх вякоў, калі на Ніж адпраўляліся аматары волі і прыгодаў. У часах Бульбы пайсці на Украіну значыла пайсці на вайну. У 1914 г. на вайну збіраліся цэлыя народы.

Набліжаўся час Булака.

*(працяг будзе)*

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

**Якія мы людзі**

# НАРЭШЦЕ Ў ЕЎРОПЕ!

З паўночна-заходняга боку палаца Браніцкіх ёсць колішняя абаронная фоса, такая, як будавалі ў сярэднявеччы, — вялізны роў, заліты вадой. Сёння, вядома, выконвае яна толькі архітэктурную ролю, даючы асалоду сузіраючым палац ды жадаючым адпачыць над вадою ў зацішным цяні ліпаў.

Спякота 1 верасня гэтага года была зусім не выраснёвая, і людзі, сядзеўшыя на лавачках вакол става, знайшлі тут хоць на хвіліну спакой і асалоду. Адны маўчалі, другія гутарылі. Нейкія маладыя людзі, не зважаючы на гарачыню, пілі гарэлку проста з бутэлькі. На суседняй ад іх лаўцы чакалі ўжо іншыя, каб падабраць пустыя бутэлькі і вырučаныя за іх грошы дадаць да сваёй жабрачай пенсіі. Усё было ў норме, як заўсёды ў гэтым гістарычным зацішшы.

І раптам пачуўся крык. Нейкі чалавек сказаў: „Во, вучні ўжо ў школу прыйшлі, цешацца, што сустрэліся!" Галовы ляніва павярнуліся ў бок пачутага крыку.

Не, гэта не былі школьнікі. З боку палаца, а магчыма ад наступнага будынка, дзе змяшчаецца кафедра анатоміі Медыцынскай акадэміі, бег негр. Ён уцякаў ад 5-7-асабовай банды скінаў, якая гнала яго, махаючы ў паветры нагайкамі з металёвымі наканечнікамі. Галава негра была разбітая, і кроў на цёмным твары сцякала на яго белую святочную кашулю. „Dzwonić policja!" — крычаў у роспачы малады чалавек.

„А-а-а, я яго ведаю", — сказаў адзін з адпачываючых на лаўцы. — Гэта ж студэнт з Анголы, ён вучыцца ў нашай акадэміі..."

Хлопец, які прыехаў да нас з далёкага краю, каб навучыцца найбольш высакароднай прафесіі лекара, праўдападобна, вяртаўся з экзамена, бо быў у чорным гарнітуры і пад гальштукам, са сшыткам у руках. Бег сярод абыякавых гледачоў, як зацюканы сабака, які ўцякае ад кія. Адзінокі ў сваёй бядзе, чужы ў натоўпе.

Перад студэнтам паявіўся стаў. Дарогі назад не было. Банда хуліганаў з агаленымі галовамі, на якіх засталіся толькі „грабяні пеўня", дасло́ўна наступала яму на пяты. „Ty czarnuchu, do Afryki, won z Polski!" — вылі яны ў захапленні самімі сабою.

Доўга не думаючы, чорны хлопец як стаяў кінуўся ў ваду і пачаў плысці. У касцюме і абутку. Трымаючы пад пахай тоўсты сшытак з студэнцкімі нататкамі. Усе, што сядзелі на лавачках, з апрабатай глядзелі на яго. Відаць, ім падабалася, што хлопец плаваў як рыба: адразу разважна нырнуў пад ваду, хаваючы галаву ад эвентуальнага ўдару цэглай, якой многа валялася каля става, побач з разбуранай прыбудоўкай для лодак.

Дрыжучы і прыцiскаючы да грудзей свой запаветны сшытак, негр вылез з вады на другім беразе става і ўсё паўтараў: „Nic im nie zrobiłem, patrzcie co oni mnie zrobili!" Аднак, ніхто з седзячых на лавачках нават не зварухнуўся. Адзін чалавек сказаў: „Zepsuli mi całe popołudnie". Другі: „A mnie to wszystko jedno, za pięć minut nie wrócę do tego epizodu". Жанчына скантатавала: „A ja przez dwa dni bedę myślała o tym wydarzeniu". З неба ліў жар. П'яніцы пілі далей з бутэлек.

Нехта параіў студэнту-негру ўцякаць у Фарны касцёл. Ксёндз напэўна абароніць...

* * *

Такое здаралася і раней. У „Еўропе". 1975 год. Англія. Аўтобус Манчэстэр – Лондан. На заднім сядзенні група балельшчыкаў едзе ўслед за любімай футбольнай камандай на матч. Пакуль хлопцы спяваюць, падыгрываючы сабе на гітары, выглядаюць на звычайных юнакоў з сваімі юнацкімі пасіямі.

У аўтобусе едзе адна-адзіная негрыцянка, і на яе кіруюць сваю ўвагу няўрымслівыя хлопцы, якім надакучылааднастайная музычная забава. Яны пачынаюць кпіць з яе негрыцянскай гаворкі, на ўвесь аўтобус перадражніваць яе. Нікому з пасажыраў гэта не перашкаджае. Ніводзін з іх не рэагуе нават тады, калі бойкая моладзь пачынае прыкладваць да рукі гэтай прыгожай, але чорнай дзяўчыны запаленыя цыгарэты. Дзяўчына ўскаквае, як апараная, крычыць ад болю, плача і наракае на свой лёс: „Чаму вы іншым жанчынам-чужаземкам (паказвае на нас) такога не зробіце? Бо яны белыя, а я чорная?!" Негрыцянка заліваецца слязьмі, а горкія словы яе патанаюць у мёртвай цішыні. Яна ідзе да шафёра аўтобуса і ў яго просіць рады і дапамогі. Той спыняе аўтобус, выслухоўвае яе, перакідае ў зубах жвачку з левага на правы бок і бездапаможна раскладвае рукі.

Аўтобус едзе далей. Хлопцы на нейкі час утаймоўваюцца, даюць спакой негрыцянскай дзяўчыне. Адзін з іх адчыняе ўверсе так званы „обэрлюфт", каб было больш свежага паветра. Быццам выстрал з рагаткі, ускаквае адзін з пасажыраў і тыцкае пальцам уверх: „Зачыніць!" Хлопец умомант выконвае яго загад і зачыняе верхняе акно, бо нехта з белых мог бы прастудзіцца.

* * *

У нас раней такое не здаралася. Але цяпер і мы ў „Еўропе". Нарэшце ў Еўропе!

**АДА ЧАЧУГА**

# Зорка
## старонка для дзяцей

## Для самых маленькіх

# БУСЛЫ

ТАМАРА КЛІДЗЕ

Раней у нашай вёсцы вялося шмат буслоў. З даўніх часоў упадабалі яны прыгожыя ваколіцы Прусінава - заліўныя лугі і чысты, празрысты Нёман. Хоць і нешырокі ён у гэтым месцы, а рыбы шмат.

Птушкам тут прыволле. Кожны год некалькі пар буслоў вярталася з далёкіх вандровак да сваіх наседжаных гнёздаў. І вяскоўцы, асабліва дзеці, ганарыліся сваімі птушкамі, ахоўвалі іх.

Але вось спатрэбілася зямля пад ворыва, і пачалі асушваць балоты. Дайшла чарга і да Прусінава. Цяжка стала буслам здабываць сабе спажыву. З кожным годам усё менш і менш стала прылятаць іх у нашу вёску. Летась засталіся толькі дзве пары. Адна пасялілася пры лесе, непадалёку ад Нёмана, а другая - бліжэй да людзей. Якраз каля нашага дома, на старой разгалістай таполі, апаленай маланкаю.

Некалі год назад мой старэйшы ўнук Ваня ўсцягнуў на таполю старое кола, умацаваў яго, накідаў сухіх галін, саломы і злез задаволены: астатняе, маўляў, няхай гаспадары самі дабудоўваюць.

Вясною з'явіліся буслы. Угледзелі гняздо, заклекаталі, быццам аб нечым раіліся, і пачалі парадкаваць сваё новае жытло - утоптваць ды ўцяпляць. Так і пасяліліся побач з намі, як добрыя суседзі. От было радасці дзецям! З таго часу і прылятаюць кожную вясну.

У гэтым годзе ў гняздзе з'явіліся бусляняты. Ажно трое. Птушаняты падраслі, пачалі ўжо на край гнязда вылазіць, спрабаваць свае слабенькія крылы. Каб яшчэ з тыдзень патрымалася добрае надвор'е, паляцелі б з бацькоўскага гнязда ў сваё першае самастойнае падарожжа.

Але здарылася бяда. Аднойчы ўначы насунулася на вёску чорная хмара. Ураганны вецер пранёсся над хатамі. Толькі пад раніцу навальніца сціхла, паразганяла хмары, выглянула сонейка.

Яшчэ нацямочку я паднялася, каб паглядзець, як там нашы буслы. Прачнуліся і ўнукі, паўскаквалі, выбеглі на вуліцу. Глянулі на дрэва - і ў кожнага сэрца зайшлося ад болю. Старая таполя расколатая, голле паламанае, на зямлі валяецца буслінае гняздо. З адчайным крыкам над намі лёталі старыя буслы, быццам плакалі, клікалі на дапамогу.

Мы кінуліся шукаць буслянят. І неўзабаве непадалёку ад таполі знайшлі ўсіх траіх. Двое былі нежывыя, і толькі трэцяе нейкім цудам уцалела. Кволае і бездапаможнае, яно сядзела ў густой траве і спалохана пазірала на людзей.

Сумная вестка абляцела ўсю вёску. Да нашага дома збегліся не толькі дзеці, але і дарослыя. Малыя плакалі. Што рабіць, як вярнуць бусляня ў гняздо?

Нехта ўспомніў, што за агародамі, у чыстым полі, стаіць стог сена. Вось і надумалі пакласці бусляня туды. Буслы абавязкова знойдуць.

Так і зрабілі. І сапраўды, птушкі хутка агледзелі сваё дзіця і пачалі каля яго ўладкоўвацца.

Але хіба ж гэта жытло? І надумаў мой старэйшы ўнук зноў памагчы буслам. Ён узлез на таполю, моцнаю вяроўкаю звязаў разламанае дрэва, усцягнуў на яго пашматанае буслінае гняздо, добра ўмацаваў.

Усе дзеці памагалі Ваню. Салому і галінкі насілі, парадкавалі птушыны дом. Потым пабеглі да стога, прынеслі бусляня, і Ваня пасадзіў яго ў гняздо.

Буслы ўслед прыляцелі і з клёкатам апусціліся на гняздо. Бусліха адразу супакоілася, а бусел некуды паляцеў. Відаць, харч здабываць...

Зараз ужо зіма. Буслы нашы ў выраі. А мы ўсё думаем: ці вернуцца яны да нас вясною?



СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ

### ГАРБУЗ

- Я расту, расту, расту,
Расцягнуўся на вярсту, -
Так сказаў Гарбуз-таўстун.
Усміхнулася Фасоля:
- Лепш не лезь, Гарбуз, на поле,
Бо жывоцік свой праколеш.
Бачыш, востры частакол,
А за ім глыбокі дол?..
Ой, як страшна там наўкол!
Не паслухаўся пузаты,
Праз цыбулю і салату
Ён палез уверх заўзята,
Ды зваліўся ў баразну,
Крышку высунуў спіну
І ў цішы, цяпле заснуў.
Хоць і спаў, ды рос і рос,
Ён усіх тут перарос,
Не падняць яго на воз.



### ЧАРТАПАЛОХ

На развіліне дарог -
Страшны, злы чартапалох.
На ім церні, як агні,
Не даткніся, не крані.
Аб калючкі-шыльцы
Пакалолі крыльцы,
Пакалолі ножкі
Камары і мошкі,
Матылькі і мушкі,
Авадні і птушкі.
Паміж кветак шум-спалох -
Азвярэў чартапалох!
Баязлівы васілёк
Ад яго у жыта ўцёк,
І наперагонкі
Уцяклі рамонкі,
І разбегліся браткі
Па разорах у куткі.
Пахаваліся званочкі
Пад зялёныя лісточкі.
А на вочках канюшынкі
Слёзы - светлыя расінкі.
Вось які чартапалох
На развіліне дарог!..



### КАЧАНЁ

Плавала па лужыне
Качанё нядужае,
Лапкамі дзвоснымі
Шастала як вёсламі.
А пасля нырнула,
Нібы патанула,
Курку напалохала,
Тая ў крык, завохкала:
- Ой, малое, кволае,
Ты ж амаль што голае.
Там як лёд вадзіца,
Можна прастудзіцца.
Качанё смяецца:
- Гэта ж вам здаецца,
Не глядзіце з горыччу,
Мне тут нават горача!



# ВЕРШ ПРА МАЙГО КОЦІКА

Гуляў на двары коцік
І згубіў свой белы боцік.
Ад гулянкі згаладнеў,
А нічога ён не з'еў.
Пайшоў прасіць есці,
А не меў дзе сесці.
Усе селі за сталом.
Коцік: гыц! - да Цэлінкі на прыпол.
І што ж яны елі?
Мяска і тварог белы!

ЦЭЛІНКА ГЛАГОЎСКАЯ,
6 гадоў,
Гданьск





*Лукаш Трашчотка з Кляшчэляў.* **Фота М. Ваўранюка**

## Вершы Віктара Шведа

### «СВЯТЫ СПАКОЙ»

- Вельмі няўважлівы ты, Коля,-
Настаўнік з горыччу сказаў.-
Матуля хоча, каб ты ў школе
Хоць крышку нешта скарыстаў.
- Я думаю, што маю маці
Не надта лёс цікавіць мой.
Яна дык марыць, каб у хаце
Мець бе мяне святы спакой!

### ХТО РАЗУМНЕЙШЫЯ?

Бацька намёкі робіць маці,
Як нейкі дрэнны напамін:
- Паверыць цяжка: нам у хаце
Расце такі дурненькі сын...
Маці на гэтыя намёкі
Знаходзіць хуценька адбой:
- Прынамсі, бацька, маеш доказ,
Што гэта ёсць сыночак твой!

### БЫЦЬ САМІМ САБОЮ

Спыталі ў школе
Хлапца аднойчы:
- Скажы нам, Коля,
Кім ты быць хочаш?
Прыдумаў Коля
Нешта такое:
- Хачу быць толькі
Самім сабою!

### ДАМ САБЕ РАДЫ

Пытацца сыночка
Бацькі маюць звычку:
- Ці брата мець хочаш,
Ці, можа, сястрычку?
- Не трэба мне брата,
Сястрычкі таксама.
Хлапец я заўзяты,
Сам рады дам з вамі!

### САЛДАТ БЕЗ РУЖЖА

Надта лянівага Барыса
Настаўнік сёння лаяў зноўку:
- Вучань без сшытка, даўгапіса -
Салдат на фронце без вінтоўкі!

Як назавеш таго салдата,
Калі б табе сустрэць папала?
Барыс на гэта зухавата:
- Я думаю, што генералам!

## ЗЯЗЮЛЯ

Шмат ёсць птушак-прыгажуняў. Вачэй не адарвеш ад іхніх убранняў-апярэнняў. Не менш і знакамітых птушак-пявунняў. Цэлы дзень іх будзеш слухаць - ні кропелькі не надакучыць. Але чамусьці і першых і другіх мы не ведаем.

А вось гэтая птаха - шэрая, непрыкметная, спявачка таксама не з лепшых - кожнаму вядома. А колькі пра яе складзена песень, казак, легендаў! На цэлую кніжку хапіла б. Між тым зязюля нават гнязда свайго не ладзіць. Вернецца з выраю ў канцы вясны і ўсё лётае, кукуе па пралесках і садах, быццам кагосьці шукае. Прыйдзе час - знясе проста на зямлі яйка. Потым возьме яго ў дзюбу і падкладзе ў гняздо мухалоўкі ці берасцянкі. Каму зрабіць такі падарунак - не выбірае. Абы гаспадароў паблізу не было. І не бяда, што там яшчэ ёсць яйкі. Праз тыдні два з падкінутага яйка вылупіцца птушаня. Вялікае - ледзь не з самую мухалоўку ці берасцянку... То падкідыш - зязюляня. Праз колькі дзён, як памацнее, яно выкідае з гнязда астатнія яйкі і застаецца адно. Зязюляня вельмі пражэрлівае. Каб пракарміць яго, птушкі-бацькі шчыруюць ад ранку і да вечара. І не здагадваюцца, што кормяць чужака. Праўда, як гаворыць легенда, птушкі самі пагадзіліся на гэткія зязюліны дары.

Калісьці ў птушак быў свой князь. Называўся ён Кук. Лятаў Кук па Беларусі і бараніў птаства ад усіх драпежнікаў. Добра тады жылося птушкам. Ніхто іх не крыўдзіў. Але раптам здарылася бяда: кудысьці згінуў князь Кук. Чакалі яго тыдзень - няма. Чакалі яго месяц - не падае знаку пра сябе. Спалохаліся, жаласна зашчабяталі птушкі:

«Хто ж нас цяпер бараніць ад ворагаў будзе?!»

Потым сабраліся ў адну вялікую чараду і пачалі раіцца, як далей жыць.

Надумалі шукаць свайго дабрадзеязаступніка. Але хто выправіцца ў няблізкую дарогу? У кожнага свой клопат. Хтосьці гняздзечка якраз ладзіць, хтосьці яйкі наседжвае або птушанят гадуе... Адзін - стары, другі - малы...

Доўга спрачаліся птушкі, каму выправіцца ў дарогу. Выбралі зязюлю. Спалохалася зязюля, што трэба ляцець у невядомы свет, зараз жа знесла яечка. Потым спыталася ў птушынай грамады:

«А куды ж я свае яйка падзену?»

«Пакладзі ў любое гняздо...» - параілі ёй птушкі.

«А хто выседжваць будзе?» - не сунімалася зязюля.

«Каму пакладзеш, той і рупіцца будзе!» - адказалі птушкі.

«А хто мае птушанятка гадаваць будзе?» - зноўку пыталася зязюля.

«Хто сваіх будзе гадаваць, той і тваё дагледзіць!..» - дружна абяцала птушыная грамада.

Падхапілася з галінкі зязюля. Паклала ў чужое гняздо свае яйка і паляцела шукаць князя. З таго часу і лётае яна па Белай Русі, кліча яго і не даклічацца:

«Ку-ку! Ку-ку!..»

За гэта птушкі гадуюць яе птушанят і цярпліва чакаюць свайго абаронцу - добрага князя Кука.

**УЛАДЗІМІР ЯГОЎДЗІК**

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

- Чаму ты, Міхасёк, цыбулю ў цукар макаеш?
- Дык яна ж горкая!

xxx

- Віця, колькі табе гадоў?
- Пятнаццаць. А табе?
- Не ведаю.
- А дзяўчат любіш?
- Не!
- У такім выпадку табе - толькі восем!

xxx

Малы хлопчык, які згубіў бацьку, звяртаецца з плачам да паліцэйскага:
- Ці не бачылі вы мужчыну без такога хлопчыка, як я ?...

xxx

- Не крычы, сынку, тата спіць!
- Ты што, хацела б, каб я крычаў тады, калі ён не спіць? Каб у скуру даў?!

xxx

- Ну і як там было? - пытаюць бацькі Элачку, якая першы раз была ў школе.
- Кепска. Быццам першы клас, а лаўкі цвёрдыя...

xxx

Элачка, якая ўпершыню трапіла ў вёску, убегла ў хату ўсхваляваная:
- Мама, хадзі хутчэй, што я табе пакажу! Там у хляве пяць маленькіх парасятак надзімаюць адну свінню! Яна ўжо стала такая вялікая-вялікая!..

xxx

- Ты ведаеш, колькі жывуць рыбы? - спытаў пяцікласнік Ваня ў свайго брата-дашкольніка.
- Ага, пакуль іх не зловяць! - адказаў малы.

xxx

Настаўнік:
- Міколка, дай прыклад выпуклага люстра.
- Гэта будзе... можа, ваша галава?..

xxx

- Чаму ты, сынок, так прыглядаешся да мух?
- Хачу адрозніць, якая з іх - муж, а якая - жонка.
- А як жа ты іх можаш адрозніць?
- Вось тая, што круціцца каля люстэрка, напэўна, жонка, а тая, што нюхае бутэльку - муж!

**ЯСЕНЬ**

*Аля і Анэта на канікулах у Варшаве.* **Фота Ю. Трачука**

## КАРЫСНЫЯ ПАРАДЫ

### КАЛІ КНІЖКА ТРАПІЛА Ў ВАДУ

Хутчэй пастаўце мокрую кніжку, разгарнуўшы яе веерам, у сухім, цёплым, добра праветраным памяшканні. Як толькі кніжка прасохне - але не да канца, - пакладзіце яе пад прэс.

Аркушы, якія склеіліся, перагарніце то ў адзін, то ў другі бок. Калі яны не расклейваюцца, патрымайце іх над парай.

Вільготныя аркушы добра перакласці фільтравальнай паперай і на наступны дзень апрацаваць прасам праз фільтравальную паперу да поўнага высыхання.

### КАЛІ НА КНІЖКУ НАПАЛІ НАСЯКОМЫЯ

Здараецца і такое. Адны насякомыя з'ядаюць паперу, другія аддаюць перавагу пераплётам, лічынкі трэціх ласуюцца клеем.

У выніку - пагрызеныя аркушы, жалабкі ў пераплётах, пылападобная папяровая труха.

Як тролькі заўважыце кніжных шкоднікаў, адразу ж пачынайце з імі барацьбу. Кожную пашкоджаную кнігу пастаўце на 7-10 дзён у шчыльна зачыненую скрыню з антымалёвым прэпаратам. Пастаўце на ніжні абрэз, разгарнуўшы веерам. Уважліва агледзьце месцы, дзе могуць быць насякомыя, - не толькі шафы, але і пад мэбляй, плінтусы, вентыляцыйныя рашоткі і г.д. У выпадку неабходнасці апрацуйце гэтыя месцы прэпаратамі ад насякомых.

Пасля апрацоўкі кнігі і памяшканні не забудзьце добра праветрыць!

## ВЯЧЭРА ЛЯ КАСТРА

Многія рыбакі выязджаюць на вадаём з начлегам. І калі ёсць улоў, то абавязкова вараць юшку. Аднак ёсць і іншыя стравы, якія можна прыгатаваць і хутка, і смачна, і, галоўнае, - непаўторна. Напрыклад, печаную рыбу. Яе ачышчаюць ад лускі, выпатрошваюць, націраюць соллю і тлушчам. У жывот кладуць нарэзаную кольцамі цыбулю, лаўровы ліст і тлушч, зняты з пузыроў і бакоў. Затым загортваюць у чыстую анучу, прамочваюць алеем, абвязваюць і закопваюць у неглыбокую ямку (5 см). Зверху распальваюць вогнішча. Праз гадзіну рыба будзе гатова.

## АМАЛЬ НУЛЯВАЯ

Так можна назваць цяперашнюю падпіску на „Ніву" ў паштовых установах. Яшчэ некалькі гадоў таму назад, я мог пахваліцца тым, што ў сваёй паштальёнскай сумцы насіў кожны тыдзень звыш 200 экземпляраў „Нівы". І былі гэта гадавыя падпіскі. Гэты рэкорд не пакідаў мяне каля 20 гадоў. Цяпер часта думаю над тым, якая была прычына майго поспеху ў распаўсюджванні роднай газеты?

Па-першае: „Ніва" была вельмі таннай і больш даступнай для чытача і зразумелай для яго. А тое, што ўзвышаўся камунізм у „Ніве" і крытыкавалася царква і кожная рэлігія, дык гэта было на руку нашым людзям. І сёння яны лаюць за вочы сваіх святароў. Мы не каталікі, дзе ксёндз — гэта „святая" асоба. А хто крытыкаваў у „Ніве" праваслаўную царкву? Тыя, хто сёння яе ўсхваляюць і ўжо амаль самі сталі „святымі". Па-другое: амаль кожны мой артыкул у „Ніве" быў надрукаваны і для мяне гэта быў нейкі стымул для распаўсюджвання і задавальненне для душы і сэрца. Але гэта ўсё прошлае. І цяпер выпісаў я ў сваёй тэрыторыі 30 экземпляраў „Нівы" на IV квартал г.г. Выдаецца, што няма чым хваліцца, але, іменна, калі я стаў пісьманосцам у нас, у Дубічах-Царкоўных, дык ад меншага ліку пачынаў свой шлях у распаўсюджванне „Нівы". Бо тыя пісьманосцы, што перада мною працавалі, дык яны зусім не выпісвалі „Ніву" ў тэрыторыі і варожа ставіліся да яе, хаця ўсе былі беларусы. А некаторыя з іх дабіліся нават больш высокіх пасадаў і сёння дырэктарствуюць на пошце. У прошлым годзе нават адзін з іх быў у нас у „гасцях". Я даў яму пачытаць „Ніву" са сваім артыкулам. Дык ён і чытаў яго па-сучаснаму, бо бэкаў, як першакласнік і амаль з гадзіну мучыўся над ім. І вось такія людзі правяць намі і таму такі бардак у Польшчы. У беларускай радыёперадачы ад 19 жніўня г.г. я хваліў „Салідарнасць", але не дасказаў галоўнае, бо вельмі хваляваўся. Я прызнаю толькі „Салідарнасць-80", гэтую першую, якая многа зрабіла і нават у Дубічах-Царкоўных аднаго дыктатара пагнала ў 1981 г. Астатнія, гэта смецце, бо скумаваліся з камуністамі і разам дзейнічаюць на пагібель Польшчы.

Яшчэ наконт „Нівы". Думаю, што ў хуткім часе даб'юся лепшых поспехаў і буду мець 100 экз., а мо і больш. Я яшчэ ў сілах гэта ўчыніць. Няхай іншыя пісьманосцы не дрэмлюць і сваё робяць у падпісцы „Нівы".

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**



## ВЕЬ-НЕ-ВЕЬ

Дарагі Астрончык! Ты адказваеш на сны. Адкажы, калі ласка, і на мой сон. Мне 15 гадоў. Сніцца, быццам я дома, але ж гэта не наша кватэра. Нейкі дзядок прыязджае да нас, ён у дзіўнай вопратцы. Кажа: „Я хачу забраць тваіх бацькоў!" А я баранюся: „Як жа я іх аддам, як жа я застануся адна з сястрычкай..." „Не, — кажа ён, — я іх забіраю, але калі ты будзеш маўчаць, яны вернуцца". Я заплакала.

Тады бацькі мае кажуць: „Трэба прыняць, што Божанька пасылае, і змірыцца з гэтым. Мы — ненадоўга". Пры гэтым бацька сказаў мне, каб на ўсякі выпадак я ўзяла ключы ад самахода. І даў мне свой новы гадзіннік, а сабе ўзяў стары, амаль паламаны. Тады бацькі ад'ехалі на машыне, хаця без ключоў.

А я ўсё плачу і плачу.

Прыйшла сяброўка, а я кажу, што яны, мусіць, паехалі ў камандзіроўку.

Пасля я купіла ў краме боцікі. Былі там высокія — карычневыя, чорныя. Я купіла сабе самыя скромныя (спачатку белыя, пасля — аліўкавыя).

Прыехалі бацькі. Кажу: „А я боты купіла сабе за грошы, што вы мне пакінулі".

Маці спытала: „А мне не купіла?" „Я ж думала, — тлумачу ёй, — што вы не вернецеся..."

Што можа абазначаць мой сон?

**КАЦЯ**

Каця! Сон надта звязаны, відаць, са штодзённай тваёй рэчаіснасцю. Але калі дашукоўвацца глыбейшага сэнсу ў тваім сне, дык, мяркую, прадвяшчае ён табе добрае падарожжа. Тыя боты і той твой плач, калі бацькі ад'язджалі... Паедзеш ты, а не твае бацькі. Ботаў ты ёй не купіла, самаход іх быў без ключоў, а гадзіннік стары, амаль паламаны.

**АСТРОН**

## КУХОННЫЯ ПАРАДЫ

### З ГРЭЦКАЙ КУХНІ

**Мусака з бульбы**

Прадукты: 1 кг бульбы, 1 цыбуліна, 2 зубкі часнаку, 15 дэкаў масла ці маргарыну, 40 дэкаў змеленага мяса, 0,5 кг памідораў, лаўровы лісток, соль, перац.

Разагрэць на вялікай патэльні 2 лыжкі масла, смажыць на ім дробна пасечаную цыбулю і зубок часнаку — павінны яны быць мяккія, але не занадта падсмажаныя. Дадаць змеленае мяса, палажыць памідоры без лупін і семечак, лаўровы лісток, соль і перац. Усё вельмі добра перамяшаць, накрыць і тушыць на невялікім агні на працягу 45 мінут.

На другой патэльні разагрэць рэшту масла і ўкінуць туды крыху падвараную і парэзаную на скрылёчкі бульбу. Смажыць бульбу, павінна яна мець залацісты колер. Плоскі посуд для запякання страў змазаць тлушчам. Палажыць у яго пласт бульбы, на яго пласт мяса з памідорамі і другі пласт бульбы. Уліць шклянку гарачай вады, накрыць і ўставіць у духоўку на 25-30 мінут.

**ГАСПАДЫНЯ**

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

... пакуль англічане пачалі паўсюдна піць чай, яго прадавалі ў аптэцы па рэцэптах.

... большасць бураў адбываецца ў другой палове дня, паміж 13 і 24 гадзінай, найчасцей паміж 15 і 18 гадзінай. Найбольш бураў здараецца на інданезійскім востраве Ява, бо аж 220 у год.

... адна з найбольш старых кітайскіх энцыклапедый складаецца ажно з 5020 тамоў.

... першы раз аб шкоднасці фабрычнага дыму людскому арганізму пісалася ўжо ў 1473 годзе ў Нямеччыне.

...у зямлі аднаго гектара нашых агародаў жыве каля 100 тысяч розных чарвякоў. За год перамяшчаюць яны з месца на месца каля 30 тон зямлі.

... сэрца чалавека важыць няцэлых 500 грамаў, але выконвае яно такую працу, якой даволі было б, каб падняць 65-кілаграмавага чалавека на вышыню 10 метраў.

... у арабскай мове ёсць аж 850 слоў для назвы мяча (меч).

... алфавіт гавайскай мовы складаецца ўсяго з 13 літар.

... лепей адчуваем пах левай часткай носа. У жанчын лепшы нюх, чым у мужчын.

... барсук, гэта адзіны звер, які спіць на хрыбце.

**(а-ця)**

### КАМУНІКАТ

Галоўная камісія па даследаванню злачынстваў супраць Польскага Народа - Інстытут нацыянальнай памяці - Акруговая камісія ў Беластоку ветліва просіць дасылаць інфармацыі аб дзейнасці НКУС у Паравозным дэпо ў Беластоку у 1939-1941 гадах, асабліва аб арыштах і ссылках у глыб СССР і аб загінуўшых арыштаваных. Інфармацыі і матэрыялы просім дасылаць на адрас: Główna Komisja Badania Zbrodni przeciwko Narodowi Polskiemu - Instytut Pamięci Narodowej - Okręgowa Komisja w Białymstoku, 15-950 Białystok, ul. Mickiewicza 5.

## РАЗЕТКА НА «Х»

**Управа:** 1/ «доўгія ногі», 2/ «мудрагелістая фантазія», 3/ брат і вораг серба, 4/ «суданскі Менск», 5/ беларуская вёска, якой цяпер няма, але вядомая яна ў свеце, 6/ малады мужчына, 7/ «не чысты голас», 8/ ствол качана капусты, быццам пярэдняя частка галавы жывёлы.

**Улева:** 1/ воблака, 2/ атопкі /боты без халяў/, 3/ больш, чым хам, 4/ лечыць, рэзаўшы, 5/ вялікі горад на Украіне, 6/ махляр, круцель, 7/ бацька, але не родны, 8/ пасярэдзіне спіны.

**ядань**




Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на разетку з 31 н-ра. Управа:** сабака, сцежка, смерць, сімвал, смычок, станік, сышчык, сальта. **Улева:** солтыс, субота, свечка, сведка, саміца, сшытак, спакой, сашнік.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: Анна Дземянюк з Бельска-Падляшскага і Аляксандр Дабчынскі з Беластока


**Ніва**

**"Niwa"**

ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel.210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Міраноўіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Ялата Панфілюк (карэктар), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1993 r. upływa 20 listopada 1992 r.

2. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 32 500 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 3500 zł., a kwartalnie - 45.500 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# МАКАТРАЗМЫ

**НЕКРОЛАГ**

Кірам дыхнулі палоскі,
Аб'явілі жальбу вельку:
Пан бургамістр Зікзакоўскі
Праваліўся у бутэльку.

**СПАГАДЛІВЫ**

Павініўся перад ёю
Пад зямлёю.

**СІДАР МАКАЦЁР**

**ЗАПАСНАЯ ЧАСТКА**

Манька ўпершыню самастойна выехала на легкавіку ў горад. Раптам пад коламі штосьці дзынкнула. Манька спынілася і з цяжкасцю паклала ў багажнік запчастку, якая выпала. Калі яна прыехала дамоў, муж агледзеў тое, што яна прывезла, і сказаў:

- Нічога страшнага! Можна ездзіць і далей. Толькі давядзецца адвезці на месца накрыўку ад каналізацыйнага люка.

**ЧАМУ ГРЭКІ МАЛЯВАЛІ ЖАНЧЫНУ**

- Тата, чаму старадаўнія грэкі заўсёды малявалі «Перамогу» ў выглядзе жанчыны?

- Сынок, ажэнішся, даведаешся!




*Мал. Яна Зялінскага.*





*Мал. Ігара Варашкевіча*

# УСЁК?

Лёнік уляцеў у кватэру, як віхор. Ад парога шпурнуў на крэсла ранец, патрабавальна гукнуў:

- Есці!..

- Ты ж яшчэ рукі не памыў, - асадзіў сына Альберт Патапавіч. - А ці заслужыў ты яшчэ абед? Пакажы дзённік!

Лёнік запусціў руку ў ранец:

- У мяне і пяцёркі ёсць!

Альберт Патапавіч разгарнуў дзённік, і твар яго стаў, як навальнічная хмара: чытанне - «два», пісьмо - «два», арыфметыка - «два», спевы - «пяць».

- Ах ты, боўдзіла! І яшчэ спяваеш?! - бацькава рука лягла на папругу, якая трымала штаны на жываце.

- А што? Вунь у Юлькі-казюлькі ні пяцёркі, ні чацвёркі...

- Так-так... Цяпер скажы, чаму ты гэтак рана прыляцеў са школы?

- Урокаў няма.

- Чаму?

- Бастуем.

- Ну-у-у?.. Значыць, і ў вас дэмакратыя? - пальцы на папрузе расслабіліся, заварушыліся, быццам перабіралі гузікі гармоніка. - І чаго вы там дамагаецеся?

- Змяніць настаўніцу. Не трэба нам такая, што двойкі ставіць. - Лёнік бліснуў цёмнымі вочкамі-жучкамі. - Я таксама выступаў на мітынгу. - Ён ускінуў угору мурзаты кулачок: - Далоў бюракратаў!..

- А-а, - нешта хацеў сказаць Альберт Патапавіч, і яго кувалда-кулак мільгануў у паветры: керамічная ліса, якая на туалетным століку выдурвала сыр у вароны, падскочыла, нібы падстрэленая.

Зазваніў тэлефон. Хлапчук схапіў трубку.

- Алё! - хвіліну слухаў, а потым радасна крыкнуў: - Малайчына! - Кінуў трубку на рычаг. - У Юлькі-казюлькі тата не галава, а Дом Саветаў. Кажа: усім пазваніла, і ўсе згодныя.

- З чым?

- Патрабаваць ад вас, бацькоў, японскія магнітафоны! А не - зусім кінем школу! Усёк?

Альберт Патапавіч, хапаючы ротам паветра, заскрыгатаў зубамі.

**АЛЯКСАНДР КАПУСЦІН**

**З ПАДСЛУХАНАГА**

**Крот:**
- Раніца! Колькі разоў яе сустракаў, але ад гэтага святлей не станавілася.

*Запісаў М. Підорын*

# АНЕКДОТЫ

— Мы проста не ўяўляем, якое ўздзеянне на нас аказвае друк!

— О, мяне можаце не пераконваць! Я ажаніўся па аб'яўцы ў газеце.

* * *

Усё прабаваў, ды не магу адвучыцца ад курэння, — скардзіцца Міхась.

— А вы паспрабуйце цукеркі, — раіць яму доктар.

— Прабаваў, ды яны не гараць.

* * *

— Аддай пасаг, або шануй маю дачку! — кажа цесць зяцю.

—Зраблю наадварот: аддам дачку, а пасаг буду шанаваць.

* * *

— Наш кіраўнік аддзела кадраў вельмі ветлівы.

— У чым гэта праяўляецца?

— Паклікаў мяне і сказаў, што не ўяўляе, як без мяне будуць працаваць, але з першага чысла паспрабуюць.

* * *

— Доктар, муж мой зрабіўся вельмі нервовы, — скардзіцца жанчына доктару.

— Вы павінны абое хоць на месяц выехаць з Беластока, — раіць доктар.

— Куды?

— У супрацьлеглых напрамках.

* * *

— Што трымаешся за шчокі? — пытае доктар Сцяпана.

— Зубы баляць.

— Да зубнога.

— Не маю ўжо з чым. Усе выбілі.

* * *

— Ну і як з маладой жонкай? — пытаецца Кастусь сябра-шаўца, які ўжо трэці раз ажаніўся.

— Як з жонкай... Калі кіне ў мяне талеркай і не трапіць, дык я цешуся. Як зноў я шпурну ў яе капылом і прамахнуся, тады яна цешыцца. Адным словам, шмат радасці і ўцехі.

Падборку зрабіў
**ЯСЕНЬ**



# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Даражэнькае! Як адчапіцца ад дзяўчыны, якая нарадзіла дзіця? Кажа, што ад мяне, але ці ж я ведаю... Не такая ўжо яна і маладзенькая. Нават ужо і замужам была, ды развялася. Кажа, піў, наркотыкі прымаў, біў яе. Хаця... цвярозы быў такі, што хоць ты яго да раны прыкладай. Жыла адна. Сустрэліся мы на прыватцы ў майго сябра — і адразу запрасіла мяне да сябе. Раз пераспаўся — і зацяжарыла. Больш мы не сустрэліся. А мо яна кожнага гэтак цягне ў свой ложак?..

Калі праз тры месяцы яна пазваніла мне і сказала , што зацяжарыла ад таго разу, я думаў, што звалюся з крэсла. Так ужо адразу зацяжарыла ад першага разу? Я ж ледзь да яе дакрануўся...

Нарадзіла яна гэтае дзіця і цяпер унушае мне, што я яго бацька. Ну, і як тут жыць? Просіць, заклінае мяне, каб ажаніўся з ёю. А чаго ж мне жаніцца, калі яна мне не падабаецца. Яна лічыць, што я ашукаў яе, бо гаварыў пра каханне, яна мне аддалася, а цяпер ёсць дзіця, якому патрэбны бацька. Павінен я з ёю ажаніцца! Што мне рабіць? Ці буду я з ёй калі шчаслівы?

**ІГАР**

Ігар! Жанчына (а асабліва неспакушаная дзяўчына), калі ідзе ў пасцель з мужчынам, наогул думае пра каханне. Чаму ты вырашыў, што яна цябе „зацягнула" да сябе? Няўжо зрабіла гэта сілком? Ты ж сам, пэўна, шукаў прыемнасці ў гэтай раскошы, калі прыняў яе прапанову. Іншая справа, што калі ўжо кахацца, дык лепш з дзяўчынай, з якой ты ў любы момант хацеў бы ажаніцца. Гэта значыць, з такой, якую добра ведаеш і якая падабаецца. На жаль, можна зацяжарыць і ад першага разу, калі партнёры яшчэ не зусім падрыхтаваныя да гэтага, а часам і няшмат ведаюць адзін пра другога. Дакрануўся, як кажаш, — і ўжо хопіць. А пасля трэба выпіваць тое піва, якое наварыў.

З твайго пісьма вынікае, што ты ёй усё ж падабаўся і што ахвотна жыла б з табою ўсё жыццё. Тое, што адразу запрасіла цябе да сябе, зусім не абазначае, што запрашае першага мужчыну, якога сустрэне. Думаю, няма сумненняў, што гэта тваё дзіця, трэба ж таксама лічыцца і з псіхікай гэтай дзяўчыны. Яна ж не праследавала цябе ў часе цяжарнасці, нічога ад цябе не дамагалася, а толькі хоча, каб дзіця яе мела бацьку. Дзеля дзіцяці жанчына гатова ісці на ўсялякія ахвяры.

Ці будзеш ты шчаслівы, калі б ажаніўся з ёю? Думаю, што не, бо сілком сэрцу мілы не будзеш. Не стане яна табе мілейшай ад таго, што будзе бліжэй цябе. Наадварот, можа раздражняць цябе і знеахвочваць. Яна ж перакрэсліла твае мары, жыццёвыя планы, спадзяванні, бо нарадзіла дзіця, якога ты не чакаў і не хацеў. Зробіцца пекла на зямлі. Рэдка каму ў такой сітуацыі ўдаецца пабудаваць добрую сям'ю.

Растлумач гэта ёй. Можа, яна цябе зразумее і вы будзеце ў добрых сяброўскіх адносінах. А памагаць ужо мусіш усё жыццё. Мяркую, што дзіцятка хутка стане падобным на бацьку.

**СЭРЦАЙКА**

